№ 15 (3858)

25 лютага 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

З НАГОДЫ



## Набліжаецца вясна. Прылятаюць алімпійцы...

*Учора ў Мінску сустракалі беларускіх алімпійцаў, якія вярнуліся з Сочы.*

Традыцыйна не абышлося без паказухі. Як вядома, Лукашэнка аддаў распараджэнне даставіць спартсменаў сваім самалётам (на самай справе яны прыляцелі на ўрадавым ТУ-154) і “на ўзроўні” арганізаваць сустрэчу. Арганізавалі. Таму не было нечаканым, што ля аэрапорта стаялі маладыя людзі з надпісамі “БРСМ” і “Белая Русь” на футболках.

Журналістам наогул патрэбна была акрэдытацыя, у аэрапорт загадалі прыехаць “на інструктаж” у 14.00, хоць планавалася, што самалёт прызямліцца ў 15.40 (а прыляцелі алімпійцы каля 18.00). Больш за тое, яшчэ ніколі такога не было, каб журналістаў падзялілі на тых, каму можна было задаць пытанні Дар’і Домрачавай у зале, і тых, каго адправілі за вароты.

Што тычыцца саміх алімпійцаў, то ім, напэўна, хацелася аднаго — цішыні і спакою.

*“Адпачыць і паспаць”,* — коратка сказала трохразовая алімпійская чэмпіёнка Дар’я Домрачава і хутка заскочыла ў аўтобус, які ў суправаджэнні машын з мігалкамі павёз яе і іншых алімпійцаў дадому.

**Алесь СІВЫ.**

ЭКСПЕРТЫЗА

# Начальнікі-багацеі

*Нарэшце, не трэба прыслухоўвацца да чутак і плётак. Настаў той рэдкі перыяд, калі мы можам абсалютна афіцыйна даведацца, ці на зробленыя грошы “гуляюць” мясцовыя начальнічкі. Бо як толькі выбары — амаль усе яны становяцца абаронцамі інтарэсаў народа і кандыдатамі ў дэпутаты. А ў гэтай якасці абавязаны прадставіць дэкларацыі аб даходах.*

*“Народная Воля” вывучыла заробкі мясцовай эліты на прыкладзе дэкларацый тых, хто балатуецца ў дэпутаты ў Салігорскім раёне.*

Самае вядомае прадпрыемства ў рэгіёне — гэта, зразумела, “Беларуськалій”. Але наш імправізаваны рэйтынг узначаліў прадстаўнік блізкага да калійшчыкаў, але прыватнага прадпрыемства — тэхнічны дырэктар ЗАТ “Салігорскі завод тэхналагічнага абсталявання” **Юрый Траян**. Пра такі завод мала хто чуў, выпускае ён самыя розныя здрабняльнікі, канвееры, змяшальнікі... Здаецца, дробязь усялякую. Але гадавы даход тэхнічнага дырэктара склаў 453 мільёны 816 тысяч 245 беларускіх рублёў, ці амаль 38 мільёнаў рублёў у месяц. З разліку сярэднага курса нашага рубля да долара — больш за 4 тысячы долараў штомесяц. Прама скажам, зусім не дрэнна.

Другое месца заняў начальнік прадпрыемства, якое таксама цяжка западозрыць у вялікіх прыбытках. Ну, здавалася б, што за важнасць такая — мясцовая камунальная аўтабаза?.. Але гадавы даход дырэктара **Міхаіла Казушчыка** сведчыць пра зусім нядрэнны фінансавы стан — больш за 343 мільёны рублёў за год, ці ў сярэднім 28,5 мільёна рублёў на месяц.

І, нарэшце, трэці сюрпрыз. Хто б мог падумаць, што на торфе можна зарабляць большыя грошы, чым на калійных угнаеннях? Аднак гадавы даход **Віктара Анікеенкі** — дырэктара Старобінскага торфабрыкетнага завода склаў 313 мільёнаў 957 тысяч 835 рублёў (больш за 26 мільёнаў у месяц) і дазволіў заняць трэцяе месца ў рэйтынгу “начальнікаў-багацеяў” Салігорскага раёна.

Далей са значным адрывам амаль у 100 мільёнаў рублёў ідзе банкір **Таццяна Курбыка**, якая ўзначальвае мясцовы філіял “Беларусбанка”. Агульная сума яе гадавога дахода 222 мільёны 720 тысяч 786 рублёў. Такім чынам, у сярэднім на месяц у Таццяны Іванаўны атрымліваўся даход у 18,5 мільёна, ці больш за 2 тысячы долараў. Грошы, як кажуць, робяць грошы. Можа, таму працэнтныя стаўкі па крэдытах у “Беларусбанку” такія, што спустошаюць і кашалькі людзей, і банкаўскія рахункі прадпрыемстваў.

Калі сыходзіць з памеру гадавога даходу, недалёка адсталі ад банкіраў гандляры. **Валерый Васілевіч**, дырэктар ААТ “Салігорскгандаль”, у 2012 годзе меў гадавы даход больш за 203 мільёны рублёў, ці амаль 17 мільёнаў у месяц.

Прыблізна на гэтым жа ўзроўні аказаліся даходы намесніцы дырэктара салігорскай птушкафабрыкі **Іны Талкачовай**. Крыху больш за 199 мільёнаў рублёў за год, што ў пераліку на кожны месяц азначае прыблізна 16,6 мільёна. І толькі пасля яе з’яўляецца ў нашым спісе начальства з “Беларуськалія”. **Дзяніс Бялькевіч**, праўда, не такі ўжо высокі начальнік. Усяго толькі старшыня прафкама рудніка 4-га ўпраўлення. Нагадаем, што мінулы год для калійшчыкаў быў не лепшым, аб’яднанне перажывала цяжкія часы, руднікі нават часткова спынялі працу. Тым не менш гадавы даход дробненькага прафсаюзнага “босіка” — без малога 178 мільёнаў рублёў, ці ў сярэднім 14,8 мільёна рублёў у месяц.

(Заканчэнне на 2-й стар.,

ЭКАНОМІКА

## Недалічыліся 3,5 трыльёна

У 2013 годзе ААТ “Беларуськалій”, найбуйнейшы падаткаплацельшчык Мінскай вобласці, паменшыў плацяжы ў бюджэт у 4,5 раза ў параўнанні з 2012 годам.

У выніку абласны бюджэт недаатрымаў 3,5 трлн рублёў.

Інфармацыя пра выкананне бюджэту Мінскай вобласці прыводзіцца ў лютаўскім нумары часопіса “Финансы, Учет, Аудит”, які выдаецца Міністэрствам фінансаў.

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## На большасці ўчасткаў выбары безальтэрнатыўныя

Толькі прыблізна на 10% участкаў будуць спаборнічаць некалькі кандыдатаў, адзначае адзін з каардынатараў кампаніі “Праваабаронцы за свабодныя выбары” кіраўнік РГА “Беларускі Хельсінкскі камітэт” **Алег Гулак.**

Паводле яго слоў, традыцыйна палітычная актыўнасць найбольш сканцэнтравана ў сталіцы, дзе конкурс пры вылучэнні ў Мінгарсавет складае 4,7 кандыдата на месца, у той час як у раённыя Саветы конкурс складае 1,29, а ў сельскія Саветы — 1,2. Пры гэтым прадстаўнікі апазіцыйных і праўладных партыйных структур вылучаюцца найперш у Мінску, а сельскія Саветы фарміруюцца практычна без удзелу партыйцаў.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Калі будзе суд над былым кіраўніцтвам Белкаапсаюза?

Расследаваннем справы былога кіраўніка Белкаапсаюза **Сяргея Сідзько** і яго падначаленых па-ранейшаму займаецца Камітэт дзяржбяспекі. Таму адказ на гэтае пытанне мы папрасілі даць кіраўніка прэс-службы КДБ **Артура Стрэха.**

— *Калі будуць прыняты нейкія значныя працэсуальныя рашэнні па гэтай справе, мы абавязкова праінфармуем грамадскасць,* — сказаў Артур Віктаравіч. — *Пакуль, прабачце, ніякіх навін і каментарыяў.*

Шчыра кажучы, сітуацыя дзіўная. Калі крымінальную справу яшчэ не спусцілі на тармазах, а тыя, хто спакусіўся на вялікі хабар, яшчэ знаходзяцца за кратамі, то не ясна, чаму следчыя КДБ не паведамляюць грамадскасці хоць нейкую мінімальную інфармацыю пра Сідзько і тых, каго затрымалі разам з ім. Справа ж вельмі рэзанансная, людзі хочуць ведаць падрабязнасці! І не абавязкова раскрываць, як любяць казаць прадстаўнікі праваахоўных органаў, “*таямніцы следства”,* дастаткова нават самай простай інфармацыі: ідзе допыт сведак, некаму з затрыманых змянілі меру стрымання, усе супрацоўнічаюць (альбо не) са следствам, прызнаюць сваю віну (альбо не), і г.д. А так мінула столькі часу, а ў КДБ — ні гуку, толькі фармальныя фразы... У рэшце рэшт, не кожны дзень у Беларусі затрымліваюць тых, хто патрабуе паўмільёна долараў за вырашэнне простых чыноўніцкіх пытанняў.

Можа, і суд (калі да яго дойдзе) будзе закрытым?..

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

АДГУКНІЦЕСЯ!

## «Народная Воля» шукае педагога, з якім Аляксандр Лукашэнка гутарыў на плошчы Перамогі

Усё адбывалася, як заўсёды. Спачатку ўрачыстае ўскладанне кветак ля помніка на плошчы Перамогі з нагоды 23 Лютага, а потым “падыход Аляксандра Лукашэнкі да людзей”. Вечарам беларускія тэлеканалы трансліравалі ў запісе некаторыя фрагменты са святочнага мерапрыемства. Было паказана, як Аляксандр Рыгоравіч гутарыць з жанчынай, якая назвалася, здаецца, педагогам.

“Народная Воля” вырашыла сустрэцца з гераіняй тэлевізійнай карцінкі і ўзяць у яе інтэрв’ю. На жаль, нашы пошукі ўчора закончыліся безвынікова. У інтэрнэт-версіях дзяржаўных тэлеканалаў тыя кадры, якія нас зацікавілі, на жаль, чамусьці адсутнічаюць. Тэлефонныя званкі ў шэраг школ не далі плёну.

Шаноўныя чытачы “Народнай Волі”! Магчыма, вы дапаможаце? Калі нехта з вас глядзеў у нядзелю вечарам (пасля закрыцця Алімпіяды) паўторную тэлетрансляцыю фрагментаў з мерапрыемстваў, якія адбываліся днём на плошчы Перамогі, і ведае асабіста тую асобу, з якой гутарыў Аляксандр Лукашэнка, — адгукніцеся. Будзем удзячны і самой гераіні тэлерэпартажу, калі яна выйдзе на сувязь з “Народнай Воляй”.

**Рэдакцыя.**

ТАМ, В УКРАИНЕ...

## Янукович объявлен в розыск

***Об этом заявил и.о. главы Министерства внутренних дел Украины Арсен Аваков.***

*“Информирую на сегодняшнее утро. Возбуждено уголовное дело по массовым убийствам мирных граждан. Янукович и ряд других должностных лиц ОБЪЯВЛЕНЫ В РОЗЫСК”,* — говорится в сообщении.

На вчерашний день точное местонахождение бывшего президента Украины было неизвестно.

## Янукович и Азаров оставили пустую казну

*“То, что оставили нам Янукович с Азаровым (бывший премьер-министр Украины), трудно назвать даже разрухой. На фоне подъема в мировой экономике украинская катится в пропасть и находится в преддефолтном состоянии,* — заявил и.о.президента **Александр ТУРЧИНОВ,** — *на государственном казначейском счете отсутствуют средства вообще”.*

## ЦИК начала готовиться к досрочным выборам

***Члены комиссии и сотрудники секретариата находятся на рабочих местах***

В Центральной избирательной комиссии идет работа над подготовкой к проведению внеочередных выборов президента Украины, которые Верховная Рада назначила на 25 мая.

Как сообщили в пресс-службе ЦИК, члены комиссии и сотрудники секретариата находятся на рабочих местах и работают в штатном режиме.

## Ушли в отставку...

***Главы 11 областных администраций западных и центральных областей Украины сложили свои полномочия. Об этом сообщили пресс-службы обладминистраций.***

В отставку подали:

— Олег Сало (Львовская область);
— Валентин Хоптян (Тернопольская область);
— Александр Башкаленко (Волынская область);
— Василий Чуднов (Ивано-Франковская область);
— Сергей Рыжук (Житомирская область);
— Геннадий Николенко (Николаевская область);
— Андрей Николаенко (Кировоградская область);
— Александр Удовиченко (Полтавская область);
— Иван Мовчан (Винницкая область).

Из этого фона выбивается позиция губернатора Харьковской области Михаила Добкина: бежавший было в Россию чиновник вернулся в Харьков в воскресенье, 23 февраля, и отказался сложить полномочия главы Харьковской областной госадминистрации. Хотя вчера появилась информация, что Михаил Добкин не исключает, что напишет заявление об отставке.

# Революция народа



Власть Януковича пала!

В четверг утром у президента были два варианта развития событий. Утопить Украину в пучине кровопролитной гражданской войны или сложить с себя полномочия президента. Силовой вариант не прошел. После начала массового убийства граждан на Майдане произошли непредсказуемые события. Начался массовый переход военнослужащих внутренних войск на сторону народа в Киеве, а к вечеру командиры воинских частей внутренних войск и руководители милиции в областных центрах в прямом эфире телевидения начали делать заявления об отказе выполнять приказы министра МВД Захарченко. Из Киева начался массовый исход чиновников и одиозных провластных депутатов. Бросив своих подчиненных на произвол судьбы, на чартерных VIP-рейсах вместе с чиновниками улетали командиры спецподразделения “Беркут” со своими семьями. К вечеру, невзирая на угрозы представителей президента, собралась Верховная Рада. Кворум для принятия решений был. И парламент принял постановление, которым предусматривалось прекращение огня, возвращение силовиков в места дислокации, запрет на использование силовиками оружия против протестующих, прекращение блокирования транспортных коммуникаций и ограничения передвижения транспорта. Побросав имущество и технику, силовики спешно покинули центр города.

На следующий день между оппозицией и властью был достигнут компромисс. Верховная Рада с согласия Януковича вернула Конституцию 2004 года, приняла решение о прекращении преследований протестующих и о декриминализации уголовной статьи, по которой сидела Юлия Тимошенко. Президент согласился в декабре провести досрочные президентские выборы. Оппозиция под давлением западных миротворцев, министров иностранных дел Германии, Франции и Польши согласилась на такие условия. Но на них не согласился Майдан. Народ поставил Януковичу ультиматум до 10 часов утра 22 февраля уйти в отставку.

Янукович со своим близким окружением скоропалительно вылетел в Харьков. В субботу там прошел съезд местных депутатов всех уровней. По информации высокопоставленных источников, на нем планировалось, что Янукович провозгласит новую республику юго-востока и отделении ее от Украины. Гарантом безопасности новой республики должен был выступить российский президент Владимир Путин, который должен был официально поддержать новое государство и ввести ограниченный воинский контингент для ее защиты. Но Путин отказался. И Янукович с когортой высокопоставленных чиновников даже не появился на съезде, а растворился на бескрайних просторах Восточной Украины.

А тем временем в Киеве Верховная Рада выбрала нового спикера — Александра Турчинова. Отправила в отставку президента. Назначила уполномоченных по контролю за МВД, СБУ, прокуратурой и армией. И объявила, что выборы президента Украины состоятся 25 мая.

По Центральной, Восточной и Южной Украине начался ленинопад. За эти дни снесено около ста памятников вождю коммунистов. Начались повальные отставки руководителей областей и самороспуск фракций Партии регионов в областных и районных Радах.

Вечером 22 февраля в Харькове из больницы вывезли в инвалидном кресле Юлию Тимошенко. Под усиленной охраной эскорт дорогих VIP-автомобилей выехал в аэропорт. Удивительно подобострастно по отношению к Тимошенко осветил это мероприятие один из российских каналов. Удивительно потому, что с экранов российских каналов часто льется откровенная ложь, грязь и оскорбления в адрес восставшего против произвола власти народа. Российские СМИ заявили о том, что Юлия Тимошенко выдвигается на пост президента.

Юлия Владимировна, радостная, на самолете своей мечты летела на Майдан. Ее окружение льстиво заверило, что ее там ждут, что все люди только за нее. Что чуть ли не на руках ее внесут в президентский дворец и посадят на “царствование”. Но тот, кто смотрел прямую трансляцию с Майдана, заметил: 50 тысяч присутствовавших на площади без особого ликования восприняли ее спич. Перед Юлией Владимировной уже стояла не привычная для нее экзальтированная толпа. Перед Тимошенко стоял **НАРОД**.

Народ, которой разочаровался во власти и оппозиции. Народ, который не верит ни тем, ни другим. Народ, который кровью выстрадал свою победу в борьбе с коррумпированным режимом. Народ не принял Тимошенко.

Утром в воскресенье в Верховную Раду внесли представление на пост премьер-министра. Там было три фамилии: Юлия Тимошенко, Петр Порошенко и Арсений Яценюк. После известия о том, что Тимошенко собирается вернуться, взорвался негодованием интернет. Известный украинский журналист Сергей Лещенко обратился к Тимошенко с посланием “Юля, хватит!”. В своем обращении он сказал, что у Украины есть уникальный шанс, за который украинский народ заплатил кровью, выстроить новую, не коррумпированную Украину. Он попросил Юлию Тимошенко не возвращаться в большую политику. На самом Майдане прошел небольшой митинг, где люди протестовали против возвращения Тимошенко в большую политику. После этого Верховная Рада взяла перерыв, а Юлия Владимировна дезавуировала сообщение о ее выдвижении на пост премьера.

Партия регионов отмежевалась от своего босса Януковича, осудила его побег и обвинила его в предательстве. Регионалы решительно осудили *“преступные приказы, приведшие к человеческим жертвам, к пустой казне, огромным долгам, позору в глазах украинского народа и всего мира, в результате чего Украина оказалась на краю пропасти, угрозы раскола и потери национального суверенитета”*. Самолет Януковича пограничники не выпустили из страны. И он вынужден сейчас скрываться, по слухам, на территории Крыма. Низложенного президента объявили в розыск. В СМИ демонстрируют шикарные личные особняки Януковича, генпрокурора и других высокопоставленных чиновников.

В России правящая элита в недоумении. План по возвращению Юлии Тимошенко на руководящие посты дает серьезный сбой. Не исключаю, что между Западом и Путиным были кулуарные договоренности о том, что Янукович отстраняется от власти, Украина остается целой и неделимой, но тому на смену приходит Тимошенко. И Запад и Россия приветствовали ее освобождение. Путин слил Януковича в надежде, что теперь он точно получит всю Украину целиком. Но ни Запад, ни Восток не брали в расчет украинский народ, который воспротивился возвращению Тимошенко. Вероятно, Владимир Путин шантажировал Запад, что введет войска в юго-восточную Украину и расчленит ее. Отсюда и предостережение президента США Барака Обамы о недопустимости такого шага.

В Киеве, на западе и в Центральной Украине сейчас относительно спокойно. Магазины, предприятия, школы, детсады и другие госучреждения работают. Восток и юг бурлят. Революция докатилась и до них. Сепаратистский пыл пока заметно убыл. Донецкое руководство заявило о своей приверженности целостности Украины. Премьер-министр Крыма Могилев не поддерживает сепаратистских настроений. И только Севастополь все еще бурлит и хочет отделиться.

Сейчас в стране переломный момент. Кто победит? Революция восставшего народа или ползучий переворот коррумпированной номенклатуры?

**Александр ЦЫНКЕВИЧ,**
**собственный корреспондент “Народной Воли” в Украине.**

(Продолжение темы на 5-й стр.)

РОЗДУМ

Пётра САДОЎСКІ

# Зямля тутэйшых

*(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.)*

Для яго не прадугледжваюцца ў прыярытэтным парадку ніякія банкаўскія пазыкі, ні пераважнае права выбару зямельнага ўчастка. Банкі ўсё больш робяцца транснацыянальнымі.

Так беларус, народжаны ў калгаснай вёсцы, у канцы жыцця знаходзіць сябе чужым на зямлі сваіх продкаў.

## У горадзе: працавалі-будавалі, сталі «мінарытарыямі»

Паглядзім, што маюць цяперашнія “месцічы”, колішнія вяскоўцы, у індустрыяльных паселішчах, бо падобна, што зямельная гісторыя ў вёсцы пойдзе па тым жа сцэнарыі, што і фабрычна-заводская ў горадзе.

Слова “мінарытарны” многія з беларусаў ужо ведаюць з юрыдычнага тэрміну “мінарытарныя акцыянеры” — тыя, што маюць зусім маленькую долю акцый, звычайна сотую долю працэнта. Побач з імі — нераўнавагавыя “калегі” з найбольшай доляй. Гэта так званыя мажарытары. У нас у Беларусі — звычайна дзяржава і нейкі таямнічы багаты дзядзька, свой або аднекуль здалёку. Мінарытарнымі акцыянерамі ўжо пабылі многія шараговыя беларусы: працавалі гадамі за сціплую зарплату на дзяржаўным прадпрыемстве, якое на пачатку 1990-х стала арэндным, потым калектыўным, потым напрыканцы 1990-х — адкрытым акцыянерным... Атрымаўшы чэкі “Маёмасць”, уклалі гэтыя паперкі ў якасці свайго ўзносу ў агульны фонд. Потым на працягу некалькі гадоў, спрыяючы “Фонду развіцця” ўжо роднenькага завода (“тут жа і мая доля ёсць!”) патроху ўкладалі і свае мазольныя рублі: адмаўляліся “добраахвотна” ад прэмій, працавалі на суботніках, а то і арганізавана паводле ініцыятывы прафсаюзных кіраўнікоў ды адміністрацыі па некалькі разоў уносілі ў эквіваленце па сотні долараў на “інавацыйныя праекты”...

Пішучы гэтыя радкі, маю перад вачыма Мінскі мотавелазавод, дзе я некалі адпрацаваў каля пяці гадоў інжынерам-патэнтаведам. На маё знацццё, гэта адзін з “пілотных праектаў” у Беларусі, дзе, фігуральна кажучы, адпрацоўваўся “алгарытм” абкрадання працоўнага калектыву і сталення новага класа дзяржаўна-алігархічнага капіталу сярэдніх памераў.

У сярэдзіне дзевяностых завод пачаў працаваць у форме акцыянернага таварыства. Ішоў час, беглі дні, месяцы, гады. Першыя дывідэнды не радавалі: за два-тры гады “мінарытарыі” атрымалі сваю долю — на кілаграмаў пяць варанай каўбасы. За гэты час з’явіліся новыя невядомыя дзядзькі-акцыянеры, некалькі разоў мяняўся статут акцыянернага таварыства, без ведама мінарытарыяў (бо з малой доляй капіталу не мелі права голасу ў радзе акцыянераў) праводзілася пераацэнка асноўных фондаў, часта яшчэ не зношаная маёмасць праз “добразычлівасць” чыноўнікаў з Бюро тэхнічнай інвентарызацыі (БТІ) ацэньвалася паводле “амартызаванага рэшткавага кошту”. Абсталяванне, будынкі, зямельная тэрыторыя, сыравіна, пад’язныя чыгуначныя дарогі, металалом (сапраўдны і ўяўны) пераходзілі “законна” ў рукі новых гаспадароў за сімвалічны кошт.

У выніку за гадоў пяць-сем такога гаспадарання пачалася “структурная аптымізацыя”. Скарацілі больш за тысячу рабочых месцаў, сярод іх і высокакваліфікаваных інжынераў і рабочых, бо завод пачаў мяняць профіль: пераходзіць ад уласных распрацовак на зборку з імпартаваных запчастак. Завод падзялілі на шэсць філіялаў (на адной кампактнай тэрыторыі), “звязалі” са шклозаводам у Елізаве... Працоўны калектыў памятае прызначэнне “знешняга” антыкрызіснага кіравання ў асобе Мінгарвыканкама з “залатой акцыяй” (100% акцый мінарытарыяў ператварыліся ў 0,28%!) і рашэнне Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта (жнівень 2005 г.) “*Аб рашэнні агульнага сходу акцыянераў ААТ Мотавела*”, дзе паміж іншым гаварылася і пра зніжэнне намінальнага кошту акцыі з 10.000 да 500 руб. (“*оформление в виде собственного решения в бесспорном порядке*”). Памятаю прыблізныя лічбы: ветэраны працы са стажам 30—40 гадоў, якія мелі каля паўсотні звычайных акцый, замест належных (у эквіваленце) 7—8 тысяч долараў атрымалі ў выглядзе кампенсацыі па 35—50 тысяч беларускіх рублёў. Як такіх акцый ніхто ніколі ў руках не трымаў. Давалі толькі “іменные сертификаты”. Акцыі быццам захоўваліся на дэпазітах. Хто там мог даказаць ці аспрэчыць памеры так званых рынкавых коштаў? (Адзінкавыя выпадкі нармальных выплат за акцыі прыблізна за два гады да масавых звальненняў мелі месца.)

## Што перашкаджае самаарганізацыі?

Спроба актыву падманутых акцыянераў зарэгістраваць у Мінску пры гарвыканкаме няўрадавую арганізацыю “Гарадское таварыства мінарытарных акцыянераў”, якое магло б у судовым парадку аспрэчыць факт незаконных дзеянняў адміністрацыі, поспеху не мела. Шмат каму з падпісантаў пагражалі звальненнем сваякоў з завода, некаторых узялі на часовую працу, некаторыя актывісты, што спрабавалі скантактавацца з незалежнымі прафсаюзамі, па розных прычынах далі “задні ход”. Я не ўпэўнены: ці ведаюць зараз шараговыя працаўнікі прадпрыемстваў (не толькі мотавелазавода) і грамадскія актывісты “сумарнае” заканадаўства акцыянерных юрыдычных асоб з улікам законаў, пастаноў урада, статутаў савета акцыянераў ды прэзідэнцкіх указаў? МВФ раіць нам цяпер акрамя скарачэння заробкаў і прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў “рэалізацыю мінарытарных пакетаў акцый”. Цікава, як гэта будзе зроблена?

У гісторыі паражэнняў падманутых акцыянераў і адсутнасці сувязі з дэмакратычнай грамадскасцю цяжка шукаць аднаго вінаватага. Ведаю гэта з уласнай практыкі. Яшчэ будучы актыўным членам “старога” БНФ і старшынёй партыйнай камісіі па знешніх сувязях (зараз я не з’яўляюся членам БНФ), я спрабаваў разам з экспертамі-эканамістамі наладжваць сустрэчы з прадстаўнікамі прадпрыемстваў такіх абкрадзеных мінарытарыяў і знаёміць іх з досведам стварэння ў краінах — новых членах ЕС лакальных няўрадавых арганізацый з ліку дробных акцыянераў на базе прадпрыемстваў, стварэння “калектыўных пакетаў акцый”, сістэмы льготнага крэдытавання для пакупкі акцый і г.д. Спрабавалі мы наладжваць кантакты з заводам “Зеніт” у Вілейцы, з ужо згаданым мотавелазаводам у Мінску, на “Віцязі” ў Віцебску, на “Лаўсанбудзе” ў Магілёве, з актывістамі, што займаліся мясцовым самакіраваннем з мэтай “муніцыпалізацыі” грамадскай дзейнасці. Значных поспехаў не ўдалося дасягнуць. Не ўзгадваючы асоб у цывільным побач з штатнымі заводскімі ахоўнікамі ды агентурнае інфармаванне кіраўніцтва завода пра магчымую сустрэчу з апазіцыянерамі, назаву некаторыя агульныя прычыны.

Адчужанасць цяперашніх працоўных калектываў (не толькі дзяржаўных прадпрыемстваў) ад незалежных грамадскіх рухаў за апошні час узмацнілася пад уплывам шматлікіх фактараў. Гэта вядомая дзяржаўна-манапольная інфармацыйная прапаганда, індывідуальныя працоўныя кантракты з адміністрацыяй, залежнасць сям’і сваякоў ад галоўнага карміцеля (карміцелькі) пад пільным вокам мясцовых спецслужбаў і атмасфера страху страціць той мінімум для выжывання, які забяспечыў рэжым “палітычнымі” выплатамі за кошт крэдытаў і расійскіх як бы сяброўскіх падачак. Ёсць яшчэ адна акалічнасць, пра якую незалежныя эксперты (самі даволі маладыя!) не надта задумваюцца або не хочуць гаварыць услых. Большасць цяперашніх зарэгістраваных і незарэгістраваных супраціўленцаў — пенсіянеры або не вельмі старыя людзі: гадоў па 30—35, а то і 20-гадовыя. Рэжым стаіць ужо два дзесяцігоддзі. Палічыце. Значная частка з іх — у тым ліку і партыйцаў — нідзе толкам пасля школы і ВНУ не працавалі. Фактычна — змалку “прафесійныя апазіцыянеры”. Калі пра выбары, свабоду слова і правы на дэманстрацыі яны яшчэ могуць гаварыць перад пэўнай аўдыторыяй, то ў асяродку працоўнага люду яны адчуваюць сябе некамфортна. Ды і спецыфічных ведаў не хапае: не ведаюць дзейныя законы, пастановы, інструкцыі, слаба арыентуюцца ў сучаснай вытворчасці. Уся апазіцыйная растлумачальная праца вядзецца фактычна сярод сваіх аднадумцаў. Атрымліваецца замкнёнае кола.

Давялося мне гады тры таму выступаць перад маладымі актывістамі, што займаліся мясцовым самакіраваннем і бытавымі праблемамі падчас выбараў у мясцовыя Саветы. Было гэта не ў Мінску. З прысутных чатырох дзясяткаў чалавек толькі двое ведалі, колькі літраў вады ў кубічным метры. Колькі каштуе падагрэў аднаго куба вады — ведала адна дзяўчына. Якую юрыдычную форму мае цяперашняя ЖЭС, якія правы яна мае, як фарміруецца яе прэміяльны фонд — не ведаў ніхто. Ніхто не арыентаваўся ў простых бытавых фінансава-банкаўскіх рэчах: як без падману аформіць крэдыт, як структурыруюцца дэпазіты, што такое ўласны капітал банкаў (як выбіраць банк, на што ўплывае гэты паказчык), як заключаць дагавор на рамонт памяшкання, што ўваходзіць у так званае тэхнічнае абслугоўванне дома. І гэтак далей.

На пачатку 1990-х, калі была пара рамантычнага ўздыму і чаканняў (я гавару пра БНФ “першага прызыву”), сярод нас былі і рабочыя, і вучоныя, і студэнты, і пенсіянеры. Тады, праўда, на прахадных не стаялі аўтаматчыкі. І мы ішлі ў гушчу народу, на прадпрыемствы. Я вылучаўся дэпутатам у Вярхоўны Савет у 1990 годзе на прадпрыемстве “Гранат” (так званы завод робатаў). З паўгода сустракаўся з калектывам. Выступаў з лекцыямі не толькі гуманістычнага кшталту, але і расказваў дэталёва пра рэструктурызацыю прадпрыемстваў у былой ГДР. Маім сапернікам на заводзе быў галоўны эканаміст. Наш бізнес-праект далейшага існавання завода, падрыхтаваны пры падтрымцы заводскіх інжынераў (членаў БНФ) і эканамістаў з АН БССР, перамог у вусным паядынку з галоўным эканамістам на сходзе прадстаўнікоў шасці цэхаў (330 чалавек). Я быў вылучаны кандыдатам у дэпутаты ў Фрунзенскім раёне, дзе перамог пяць сапернікаў, у тым ліку Аляксандра Мядзведзя, шматразовага алімпійскага чэмпіёна.

А што ж цяпер? Трэба інтэлектуалам-экспертам ісці насустрач не толькі тым, хто проста выжывае, але і ўдачлівым, хто сябе такім лічыць. Трэба самім вучыцца. Сталець. Калі знаходзіцца якая капейка, рыхтаваць сапраўдных экспертаў. Не толькі агульнага “дэмакратычнага” кшталту, але і тых, хто ведае законы, вытворчасць, азы бізнесу, мае адвакацкую практыку. Рыхтаваць і атрымліваць перамогу ў асобных кропках. Не спяшацца ісці на вуліцу. Лепш да асобных людзей. Гэта лепшая “фокусная група”. Тут кропка росту. Так, дарэчы, працуе большасць еўрапейскіх партый і грамадскіх арганізацый: на “вялікія” ідэі — 5—10% дзейнасці, на малыя лакальныя — галоўныя высілкі. Пра гэта, пэўна, трэба думаць, ідучы (ці не ідучы) на выбары.

***

**P.S.** Незваротнага ў грамадстве, у адрозненне ад прыроды, не так і шмат. І наша эканамічная “мінарытарнасць” мінецца, калі будзем разам. Канешне, без грошай нічога не зробіш. Але грошы могуць быць не абавязкова алігархічныя з блізкага ўсходняга замежжа. Пры непразрыстасці практыкі гаспадарання мы паступова пачынаем нагадваць Кубу часоў дыктатара Батысты: абдымаемся з багатымі авантурыстамі, падбіраем цёмны транснацыянальны капітал, будуем казіно, забаўляльныя цэнтры, распрадаём нерухомасць, зямлю... Аднак цяпер становіцца відавочным, што “сацыяльны кантракт лаяльнасці” беларускіх працаўнікоў з уладай за кошт расійскіх падачак не можа трываць вечна. Нягледзячы на ўсе нашы пазыкі і дысбалансы, доля зарплаты складае ўжо больш за палову ВУП. Чыста лічбавыя параўнанні з эканамічна развітымі краінамі будуць тут некарэктныя.

Пры нармальных празрыстых законах знойдуцца празрыстыя грошы і з Захаду. Акрамя таго, на руках (на дэпазітах, у нерухомасці, у кішэнях, у рухомых аперацыях) у нашых шараговых грамадзян не адзін мільярд долараў назбіраецца. Усё ж каля 250.000 індывідуальных прадпрымальнікаў маем. Ім не салодка. Аднак пакуль яны не пераадолеюць свой “снабізм дзелавых” (“я ў палітыку не лезу!”) адносна “інтэлектуалаў-пралетарыяў”, ніякага агульнага фронту не атрымаецца. Мы пакуль не страцілі нашу працавітасць. Калі мець адпаведныя законы, што развяжуць ініцыятыву “тутэйшых” з улікам іх гістарычнага спадчыннага маёмаснага права перш за ўсё на зямлю, якое зарабілі іхнія прадзеды, дзяды і бацькі на працягу апошняга стагоддзя, жыццё павернецца да лепшага. У нас яшчэ ёсць агульны не да канца расцярушаны скарб — гісторыя, мова, культура. Гэта база для яднання, для разумення, што некалі трэба рабіць гістарычны выбар. Часу ў нас — прыблізна на паўпакалення. Яшчэ адно дзесяцігоддзе сяброўства ў “Саюзнай дзяржаве” з нашым суседам — і свайго ў нас амаль нічога не застанецца. Бацькоўская зямля становіцца чужой. Тутэйшасць пагражае стаць вечнай прыкметай нашай нацыянальнай ідэнтычнасці і ў гаспадарчым жыцці.

ЧУЛІ?

## Шакуцін клапоціцца пра былых чыноўнікаў

Былы намеснік старшыні Мінскага гарвыканкама **Сяргей Радаман** нядаўна заняў пасаду намесніка генеральнага дырэктара холдынга “Амкадор”. Радаману даручана курыраваць пытанні будаўніцтва. За гэтую сферу ён адказваў і будучы ў 2010—2012 гадах віцэ-мэрам Мінска.

Як вядома, адзін з буйнейшых акцыянераў “Амкадора” Аляксандр Шакуцін запрасіў на працу ў холдынг або афіляваныя структуры даволі шмат выхадцаў з дзяржструктур. Сёння там працуюць былы памочнік прэзідэнта **Сяргей Ткачоў,** былы кіраўнік БРСМ **Аляксандр Нахаенка,** экс-дырэктар адной са структур МАЗа Мікалай Косцень, экс-міністр транспарту **Іван Шчэрба.**

ПА-ЗА СЦЭНАЙ

## Нарасхват

Сёння самыя дарагія тэатральныя квіткі на драматычныя спектаклі горада — на прэм’еры Нацыянальнага Купалаўскага тэатра. Месцы ў партэры на “Пана Тадэвуша” каштуюць ад 125 да 165 тысяч рублёў. На балконе — ад 50 да 70 тысяч рублёў. На пачатку лютага білеты паступілі ў продаж і праляжалі ў касе... толькі два дні!

Але 165 тысяч, аказваецца, не мяжа для глядацкіх кашалькоў. На чарговую прэм’еру Купалаўскага тэатра спектакль “Дон Жуан” 22, 23 і 25 сакавіка самыя дарагія квіткі каштуюць 180 тысяч рублёў.

Іх у касах горада таксама даўно ўжо няма.

**Альбіна КАРОТКАЯ.**

ЁСЦЬ ІДЭЯ!

## Хочаце пакаштаваць бабраціну?

Мінлясгас прапануе рабіць з баброў каўбасу і просіць распрацаваць тэхнічныя ўмовы на мяса бабра.

Пра гэта паведаміў начальнік аддзела паляўнічай гаспадаркі Міністэрства лясной гаспадаркі **Сяргей Шастакоў.** Як растлумачыў чыноўнік, Мінлясгас ужо звярнуўся з адпаведнай прапановай у Нацыянальную акадэмію навук Беларусі.

Распрацоўка тэхнічных умоў дазволіць наладзіць прадпрыемствам прамысловую перапрацоўку мяса бабра.

### ДАРЭЧЫ

Паляўнічыя сцвярджаюць, што мяса бабра вельмі і вельмі смачнае, і запэўніваюць, што, раз пакаштаваўшы, абавязкова робішся яго прыхільнікам. Паводле іх слоў, гэта мяса незвычайна далікатнае за кошт таго, што тлушч у бабра пранізвае тонкімі прожылкамі ўсе тканіны, а не толькі назапашваецца пад скурай. Прычым гэты тлушч лёгка плавіцца, таму пры гатаванні страў раствараецца цалкам, робячы мяса лёгкім і сакавітым.

ИЗ ЖУРНАЛИСТСКОГО БЛОКНОТА

# Кровавая дорога

*О трагических судьбах тысяч наших соотечественников*

## Еще вчера

...Работаю в архиве НКВД г. Томска, передо мной объемные стеллажи и тысячи картонных папок с делами “врагов народа”. Сюда, в ТомЛАГ, в 1920-е, 1930-е и 1940-е годы высылали белорусов, литовцев, поляков, эстонцев. Часто вместе с семьями. В пожелтевших от времени папках такие же пожелтевшие фотографии — учителей, священников, литераторов, рабочих, колхозников, военных, госслужащих, спортсменов, врачей...

Это давит на психику — ведь на каждого был написан донос.

Как советским идеологам и правящей коммунистической “элите” за короткое время удалось превратить огромную страну в государство сексотов, стукачей? И разделить страну на два социальных лагеря: тех, кто следит, арестовывает, истязает, сажает и охраняет; и тех, кого преследуют, репрессируют, сажают, а потом — сразу или по истечении нескольких лет — расстреливают. Управляла процессом небольшая номенклатурная советско-партийная верхушка. Эти смутные и страшные времена пережили наши деды и родители. Вместе с пожарами Великой Отечественной войны, после которой, кстати, по стране-победительнице прокатилась новая волна политических репрессий. Людей отправляли в лагеря “за саботаж”, “за выпуск некачественной продукции”, повидавших Европу недавних фронтовиков — “за восхваление иностранной техники”, за критику сталинского режима. И снова доносы, доносы, доносы...

— Вы разрешаете знакомиться с делами репрессированных их родным и близким? Они могут узнать имена тех, кто доносил?

Я включил “репортер”, мой собеседник — майор тогдашнего КГБ Владимир Уйманов. Это он помогает мне находить в архиве дела репрессированных уроженцев Беларуси.

— Да, разрешаем без проблем. И копии фотографий своих родных люди делают. Вот только страницы с доносами перед просмотром изымаем. Были случаи, когда люди мстили уже престарелым доносчикам, устраивали самосуд. Страницы с приговором тоже изымаем, где фамилии и подписи судей, то есть членов “двоек” и “троек”.

— Вы пересмотрели тысячи дел, которые связаны с пресловутой 58-й политической статьей УК того времени. Что впечатлило больше всего?

— То, что жизнь человека ничего не стоила. Не разбираясь, исходя из содержания доноса, давали большие сроки, приговаривали к расстрелу. Время было такое, работала система...

— Но ведь эту кровавую систему создали люди! Из зависти, из чувства страха, из-за понимания своей ничтожности, из-за желания выслужиться и сохранить собственную шкуру...

Здесь мы с майором сцепились, разговаривая эмоционально, но искренне. У каждого из нас была своя правда. Я настаивал на том, что имена доносчиков и судей-палачей нужно придать огласке. Чтобы не вернулось, как пел Владимир Высоцкий, “наследие мрачных времен”. Я говорил о том, что в городах и весях бывшего Союза необходимо создать мемориалы памяти жертв политических репрессий. И тут же, поодаль, поставить камни позора — с именами тех, кто выносил и утверждал лживые обвинения, отправляя невинных людей в советские концлагеря.

— А детям этих самых, как вы говорите, доносчиков и палачей как после этого жить?! — не унимался майор.

— Дети за родителей не в ответе, — парировал я. — Конечно, будет стыдно за поступки своих пращуров. Кому-то, наверное, придется сменить место жительства, кому-то — даже фамилию. Это будет жестко, но справедливо...

Переубедить друг друга нам так и не удалось.

Вместе с тем я искренне благодарен сотруднику госбезопасности Владимиру Уйманову за помощь и возможность поработать в “тайных” архивах. Это мужественный человек со своими убеждениями и принципами, у которого есть совесть и офицерская честь. Это он, по собственной инициативе, пересмотрел десятки тысяч дел репрессированных и составил книгу “Боль людская”, три тома которой он мне подарил. Четвертый том, над которым шла работа, обещал выслать. Но я четвертую книгу так и не получил.

Дослужился ли молодой в то время майор до полковника, я не знаю. Знаю только, что, часами работая в архивах, он сильно посадил зрение. Помогала ему всего одна секретарша. Но составленная офицером книга позволила тысячам людей узнать правду о судьбе своих родных и близких, чью жизнь сначала искалечил, а потом забрал сталинский режим.

## Сибирский Белосток

Начало 1990-х, полный “разгул демократии”, благодаря чему я и попал в ранее закрытые архивы. Но еще больший, необузданный разгул бандитизма.

У тогдашнего собкора “Радио Россия” по Томской области Андрея Мурашова было две служебные машины. “Жигули” бандиты недавно украли, а черную “Волгу” в гараже почему-то оставили.

— Наверное, “правильные” пацаны были, не беспредельщики, — смеется Андрей. — Садись в “Волгу” и езжай на встречу с земляками.

Дорога бежит вглубь тайги, где в 120 км от областного центра спрятался поселок Белосток. В начале прошлого века в рамках столыпинской реформы приехали сюда переселенцы из западных областей Беларуси, преимущественно этнические поляки. На деньги, которые выделила царская казна, построили добротные дома, обзавелись хозяйством, раскорчевали землю под огороды и поля. Вместе с хатами срубили костел, увенчанный высоким крестом. Кто мог подумать, что через какой-то десяток лет, после большевистского переворота 1917 г., придут уездные активисты и сломают крест, а костел отберут под клуб?

Белосток стоит на небольшой равнине. Если смотреть перед собой — настоящая белорусская деревня: во дворах порядок, грядки ухоженные, из сараев подает голос разная живность. А поднимешь глаза — вокруг поселка плотным кольцом стоят сибирские сопки, густая тайга. Вот так жили да не тужили наши земляки-переселенцы в трудах праведных. До января 1938 г., пока в один из морозных дней не нагрянула беда вместе с отрядом вооруженных красноармейцев во главе с чекистами...

Разговариваем в доме Ханевичей, куда, узнав о том, что приехал журналист из Беларуси, пришли и соседи. Моим собеседникам, преимущественно женщинам преклонного возраста, я подарил значки и небольшие сувенирные флажки с вернувшейся из глубины веков и утвержденной Верховным Советом исторической символикой — гербом Погоня. Рассказываю о переменах в теперь уже суверенной Беларуси, о ее возрождении и добрых надеждах. Разговариваю исключительно на белорусском. Меня внимательно слушают, улыбаются, а потом начинают плакать.

— Мы родной мовы не помним, ушла она вместе с нашими дедами и отцами по этапу. Только песни в нашей памяти остались на белорусском языке. Но все, о чем вы говорите, понимаем... Вы рассказывайте...

Мы беседуем за щедро накрытым хозяйским столом, на котором стоят бутылка добротного самогона, горячая картошка, сало, домашняя колбаса, грибы да прочие приготовленные по-белорусски сибирские соленья.

Слушаю и записываю рассказ о том, как в один миг их селенье опустело. Тогда, в 1938-м, чекисты собрали в Белостоке всех мужчин, начиная от 15-летних подростков и до глубоких стариков, кто мог самостоятельно передвигаться. Их погнали в глухую и морозную ночь. И вздрогнула Матушка-Сибирь от громкого женского плача и стенаний. И содрогалась еще сотни, тысячи раз, глядя на колонны изможденных людей с детьми, которых гнали по этапу.

Молодые замужние женщины овдовели, их дети осиротели. Как мне рассказали, никто из репрессированных мужчин домой так и не вернулся. Позже до Белостока докатились слухи, что баржу, в трюмы которой загрузили “контрреволюционный элемент”, затопили в Оби вместе с людьми.

На вопрос, как же так случилось, за что убили столько односельчан, услышал:

— Да ни за что! Просто какая-то сволочь написала донос, что наши мужики сожгли мост. На самом деле никакого моста отродясь не было...

И это правда, которую позже подтвердили свидетели и архивная карта того времени. Моста никогда не было!

Но были полуграмотные “чекисты” районного масштаба, которые работали по разнарядке “сверху”. Сегодня доподлинно известно, что каждой области, району доводили план — какое количество граждан из конкретных социальных категорий нужно репрессировать. И придумывали службисты с “холодным умом и горячим сердцем” разные небылицы про “контрреволюционный саботаж”, подрывную деятельность “польских и немецких шпионов”. А потом писали бойкие отчеты “по обезвреживанию”. Раздувать образ внутреннего и внешнего врага им помогали пропагандисты, которые работали в партийных газетах (тогда вся пресса была партийная). Шпиономания захлестнула советскую империю. И плакали осиротевшие дети в опустевших городских квартирах, и причитали навзрыд овдовевшие женщины в глухих поселках и селеньях. А созданная пропагандистами “светлого будущего” система работала и требовала новых жертвоприношений.

И появились “дело врачей” в Ленинграде, дело о “заговоре” командиров Красной Армии, дело об антисоветской деятельности “гнилой интеллигенции” в Минске, когда в 1937-м за один день арестовали, а вскоре и расстреляли более 100 человек, среди которых было много литераторов и журналистов.

Все это в прошлом? Но почему нынешние учебники истории о временах сталинского геноцида практически ничего не рассказывают? Ответов много. Один из них заключается в том, что современная параллель может повернуть взгляд людей в совсем недалекое прошлое. И они начнут думать, сравнивать и могут воспротивиться. А любая власть, как известно, больше всего боится бунта душ людских, даже если этот бунт самый праведный. Но чего, собственно, бояться, ведь все — в прошлом?

**Владимир ДЗЮБА**
*(“Абажур”).*

ХОБІ

# Замкі Ігара Адасіка

*Вы можаце пабудаваць замак, царкву? Не? А вось інжынеру Ігару Адасіку гэта па сіле. Ён ужо стварыў копіі васьмі знакамітых беларускіх будынкаў. Усе мадэлі — з паперы.*

Ігар Адасік захапляецца мадэліраваннем з дзяцінства. Магчыма, таму і выбраў прафесію інжынера, каб у дарослым жыцці не прыйшлося адмаўляцца ад юнацкага хобі.

Спачатку канструяваў тэхніку, зброю часоў Вялікай Айчыннай вайны. Пасля давялося дапамагаць жонцы, якая выкладае ў Гродзенскім універсітэце, аздабляць музейны пакой. Менавіта для навучання студэнтаў-гісторыкаў Ігара і папрасілі распрацаваць мадэль старадаўняга гродзенскага Старога замка. Аказалася, што стварыць макет гістарычнага будынка даволі складана. Некалькі месяцаў інжынеру прыйшлося прысвяціць вывучэнню спецыяльнай літаратуры, распрацоўцы “прататыпу” ды дыспутам з выкладчыкамі ўніверсітэта. Справа ў тым, што выглядаць знакаміты будынак павінен быў, як у часы праўлення легендарнага Вітаўта. А адбывалася гэта больш за шэсць стагоддзяў таму! Так што без гістарычных кансультацый было не абысціся. У выніку праз чатыры месяцы Ігар Адасік стварыў свой першы макет замка, які дагэтуль служыць навуковым дапаможнікам для будучых гісторыкаў.

Сёння разам з паплечнікамі Ігар стварае цэлую серыю папяровых мадэляў знакамітых гістарычных комплексаў. Своеасаблівы канструктар трэба выразаць з паперы і склейваць. Замкі — а менавіта яны складаюць аснову серыі — спецыяльна разлічаны на школьнікаў, і нават сямігадовае дзіця за некалькі гадзін зможа самастойна стварыць уласны гістарычны аб’ект.

— *Мы ствараем мадэлі нават тых замкаў, якіх сёння ўжо няма на картах*, — распавёў “Народнай Волі” Ігар Адасік. — *Усе яны вельмі цікавыя, і ў Беларусі пакуль не існуе аналагаў нашага праекта.*

*Сёння мы заканчваем працу над мадэллю Камянецкай вежы. Паводле дадзеных археалагічных раскопак, калісьці яна размяшчалася на выспе пасярод вады. Побач на такой жа выспе было паселішча. Зараз, як вядома, вежа стаіць на ўскрайку горада. Мы зрабілі мадэль, абапіраючыся на вобраз XII стагоддзя. Мадэль Мураванкаўскай царквы-крэпасці мае сённяшні выгляд, але ў нашых планах зрабіць і макет старадаўняй царквы XVI стагоддзя з класічнай замкавай брамай і металічнымі кратамі, без аздобы, якая з'явілася толькі напрыканцы XIX стагоддзя.*

Мадэлі ад гродзенскай каманды інжынераў ды гісторыкаў прадаюцца не толькі ў кніжных крамах абласнога цэнтра. Макеты замкаў можна знайсці ў Мінску ў галерэі “Ў” ці на кніжнай ярмарцы ў комплексе “Белэкспа”. Пры жаданні ёсць магчымасць замовіць мадэлі непасрэдна на фірме. Дарэчы, кошт папяровых замкаў не засмуціць бацькоў юных дойлідаў — адзін замак абыдзецца прыкладна ў 30—40 тысяч рублёў.

— *Мадэлі выклікаюць цікавасць у тым ліку і ў турыстаў, між тым пакуль наша праца прыносіць у асноўным маральнае задавальненне*, — адзначыў спадар Адасік. — *Зараз мы шукаем людзей, якія дапамогуць з рэалізацыяй прадукцыі. Магчыма, адміністрацыя гістарычных аб’ектаў, тых жа замкаў, захоча мець у сваіх сувенірных лаўках нашы мадэлі. Мы з задавальненнем пойдзем на такое супрацоўніцтва.*

У бліжэйшых планах Ігара пашырыць калекцыю мінімум да 15 замкаў. Потым, магчыма, пяройдуць на стварэнне іншых цікавых мадэляў.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

СІТУАЦЫЯ

# Бяздомных выганяюць з вясковага прытулку...

Прытулку для бяздомных людзей у вёсцы Аляксандраўка Шчучынскага раёна пагражае знішчэнне. Вернікі не могуць зразумець: чаму ўлады замест падзякі чалавеку, які ўзяў на сябе клопат па аказанні дапамогі беспрытульным інвалідам, патрабуюць ад яго адмовіцца ад сваёй дабрачыннай дзейнасці?

Гэтая гісторыя пачалася яшчэ 1 снежня 2011 года, калі каталік Аляксей Шчадроў набыў за 500 долараў дом у вёсцы Аляксандраўка. Вёска налічвае пару дзясяткаў хат, больш за палову з іх пустуюць.

Сам Аляксей з дзяцінства свайго кута не меў — гадаваўся ў Наваполацкім сіроцкім інтэрнаце. Пэўную разнастайнасць у жыццё ўносілі паездкі разам з іншымі сіротамі на ўсё лета ў Італію, дзе дзеці жылі ў тамтэйшых сем'ях. Але пасля таго, як там аднойчы загінула дзіця, кіраўнік краіны забараніў паездкі ў Італію. Так што сіротам давялося надоўга застацца ў сценах інтэрната. Потым Аляксей паступіў у медыцынскае вучылішча, пасля яго заканчэння працаваў фельчарам на "хуткай дапамозе"...

Калі ўжо дарослым Аляксей наведаў Італію, то пазнаёміўся з ордэнам братоў Маці Тэрэзы з Калькуты. Імя гэтай манашкі-албанкі вядома ўсяму свету. Папа Рымскі Ян Павел ІІ нават зацвердзіў статут гэтага ордэна. Вось, згодна з ім, Шчадроў і распачаў служэнне на радзіме, і прытулак назваў Домам Марыі Міласэрнасці. У Італіі Аляксея клічуць "брат Луіджы". Цяпер гэтае імя вядома і ўсім вяскоўцам.

Усё было б добра, але ад самага пачатку свайго існавання прытулак прыйшоўся не даспадобы мясцовым уладам. Летась супраць Шчадрова нават распачалі крымінальную справу па артыкуле 193 (дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі). Калі ж гэтая сітуацыя прыцягнула ўвагу журналістаў і юрыстаў, то ўлады адступілі, а прытулак нават атрымаў рэгістрацыю. Усё змянілася сёлета на пачатку лютага. Ад Аляксея запатрабавалі, каб ён адклікаў рэгістрацыю, і патлумачылі, што іншага выйсця ў яго няма. І сапраўды... Аляксей распавёў "Народнай Волі":

*— Цягам двух тыдняў да нас двойчы прыязджала санстанцыя, потым — пажарныя. Санстанцыя першы раз аштрафавала нас на 390 тысяч рублёў за тое, што ў нас у пакоі было 5 ложкаў, а гэта з'яўляецца парушэннем санітарных нормаў. А другі раз — за тое, што ў нас калодзеж ад хлява на адлегласці менш як 30 метраў і менш як 15 метраў ад хаты. Хаця ў вяскоўцаў такая карціна ва ўсіх дварах. Пажарным не спадабалася тое, што труба над дахам летняй кухні не абкладзена цэглай, і за гэта мы заплацілі 280 тысяч. Карацей, я зразумеў, што мы цяпер будзем плаціць і плаціць. Таму пайшоў ды скасаваў рэгістрацыю. Нам пагражаюць, што падгоняць аўтазакі, пагрузяць туды інвалідаў і вывезуць далей адсюль. Старшыня сельсавета Тамара Зубрыцкая ўвесь час казала, што не супраць маёй дзейнасці, але не на тэрыторыі свайго раёна.*

***— Ці можна гэтых людзей уладкаваць у Дом інвалідаў?***

*— Іх туды не бяруць. Там умова, каб іх пенсія была не менш за 3 мільёны. А ў іх у каго ніякай няма, а ў іншых — самая мізэрная. Таму ў іх адна дарога — на вакзал, на вуліцу, у падвал.*

У Дом Марыі Міласэрнасці з Першамайска прыязджае **ксёндз Юрый Грыцко**. Ён дапамагае чым можа. Святар кажа:

*— Спачатку мясцовыя жыхары насцярожана ставіліся да новых суседзяў. Для іх было дзіўна, што тыя не маюць ні дома, ні грошай, ні нават пашпартоў. Але цяпер людзі прыносяць і сала, і бульбу. Не ўсё яшчэ страчана ў грамадстве. Гэтыя бяздомныя людзі, канешне, з няпростымі лёсамі. Але ж яны людзі, і ставіцца да іх трэба па-чалавечы.*

Аляксей Шчадроў прыгадаў, як мянялася стаўленне да яго справы.

*— Спачатку мясцовыя жыхары, як даведаліся, хто тут жыве, то пачалі зачыняць свае хлявы, стрэхі, дзверы. А потым пагляддзелі, што ніхто нічога не крадзе, супакоіліся, і цяпер прайдзіцеся па вёсцы і паглядзіце — усё адчынена. Нават ключы вісяць на суседніх хатах, і ніхто іх не хавае. А вось мясцовыя ўлады нават забаранілі працаўладкоўваць людзей з Аляксандраўкі ў калгасы. І гэта пры тым, што не хапае працоўных рук.*

Зразумела, што ў краіне, дзе існуе пашпартны рэжым, супрацоўнікі міліцыі не ў захапленні ад таго, што ў вёсцы час ад часу знаходзяцца людзі без дакументаў. Зразумела, што вяскоўцы таксама не будуць вельмі радавацца таму, што ў вёску прывозяць незнаёмых людзей, якія па розных прычынах апынуліся на вуліцы, і прычыны гэтыя не самыя лепшыя. Вось толькі за час існавання прытулку праз яго прайшлі больш сотні чалавек, і дагэтуль не здарылася ніякага злачынства. Дык чаму ж тады ўлады так рэагуюць на дабрачынную справу?

Пытаннем на пытанне адказаў сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" Павел Севярынец: "А чаму ў Мінску разганяюцца акцыі "Ежа замест бомбаў"?" І дадаў: "Чалавек рупіцца пра тое, пра што не рупіцца ні дзяржава, ні грамадства. Ён апякуецца гэтымі людзьмі, мые, лечыць, корміць, чытае з імі Біблію. Усе гэтыя людзі разам, не бадзяюцца па вуліцах. Улады павінны Шчадрову ўсяляк спрыяць, падтрымліваць гэтае пачынанне і рукі цалаваць за тое, што ён робіць, што ён стварыў гэты дом, які зараз называецца Домам Марыі Міласэрнасці. Каму гэта пашкодзіць?.."

**Любоў ЛУНЁВА.**



Аляксей Шчадроў ратуе абяздоленых людзей, а на галаву сыпяцца шышкі...

ПО-НАШЕНСКИ

## Ни бизнеса, ни денег

*Как частник потерял 500 миллионов рублей*

В Лидском районе для строительства гостиничного комплекса с охраняемой автостоянкой в ноябре 2010 года было зарегистрировано общество с ограниченной ответственностью. Его участники планировали инвестировать в проект ***около 3 миллионов долларов собственных средств***. Компания изначально планировала строительство объекта рядом с АЗС в районе деревни Кенти, однако этот земельный участок облисполком не согласовал. Взамен обществу предложили строиться на 157-м километре автодороги Минск—Гродно: в лесу, на неудобице, в отдалении от придорожной полосы. Окончательно согласован данный участок был лишь в марте 2011 года, спустя четыре месяца после подачи заявления. В дальнейшем выяснилось, что участок... не может быть использован по назначению и требуется перенос объекта на 60 метров. В результате затянувшиеся процедуры привели к тому, что потенциальный инвестор в прошлом году отказался от реализации проекта без компенсации ***более 500 миллионов рублей понесенных затрат!***

Аналогичная ситуация при строительстве объекта придорожного сервиса сложилась у индивидуального предпринимателя в Ивье.

А сколько таких примеров можно найти в других областях Беларуси?

**Вера ВИР.**

МЕДДАВЕДКА

## Паслугі ЭКА пашыраццa

*У Мінску плануецца адкрыць яшчэ адзін дзяржаўны гарадскі цэнтр ЭКА (экстракарпаральнага апладнення).*

— Улічваючы высокую патрэбнасць насельніцтва Мінска ў рэпрадуктыўных тэхналогіях, у прыватнасці ў метадах ЭКА, у цяперашні час набываецца абсталяванне (за кошт сродкаў спонсараў) для арганізацыі гарадскога цэнтра ЭКА, — заявіў старшыня камітэта па ахове здароўя Мінгарвыканкама **Віктар Сірэнка** на пасяджэнні калегіі гэтага ведамства.

Як мяркуецца, новы цэнтр ЭКА адчыняць у 2-м раддоме сталіцы. Зараз там існуе Гарадскі цэнтр планавання сям'і, дзе забяспечаны поўны цыкл абследаванняў і лячэння сямейных пар, якія пакутуюць на бясплоддзе.

Дарэчы, сёння ў Беларусі працэдуру ЭКА выконваюць у чатырох медыцынскіх цэнтрах, два з іх дзяржаўныя. Штогод у сярэднім праводзіцца каля 2 тысяч цыклаў ЭКА (нараджаюцца 500—600 дзяцей). Паводле статыстыкі, у Беларусі 15—17% сямейных пар не могуць зачаць дзіця натуральным спосабам.

МУДРЫЕ МЫСЛИ

## Забытые советы преподобного Серафима Саровского

*Пей там, где конь пьет: конь плохой воды не будет пить никогда.*

*Стели постель там, где кошка укладывается.*

*Ешь фрукт, которого червяк коснулся.*

*Смело бери грибы, на которые мошкара садится.*

*Сади дерево там, где крот роет.*

*Дом строй на том месте, где змея греется.*

*Колодец копай там, где птицы гнездятся в жару.*

*Ложись и вставай с курами — будешь иметь золотое зерно дня.*

*Ешь больше зеленого — и будешь иметь сильные ноги и выносливое сердце, как у зверя.*

*Плавай чаще — и будешь себя чувствовать на земле как рыба в воде.*

*Чаще смотри на небо, а не под ноги — и будут твои мысли ясные и легкие.*

*Больше молчи, чем говори, — и в душе твоей поселится тишина, а дух будет мирным и спокойным.*

ЗА КАДРАМ

# Панегірык спецслужбам за два мільёны долараў

*Фільм "Авель", які рыхтуецца ў якасці "нацыянальнага праекта", даў свае "пабочныя эфекты": выраз "Нешта не так!", які стваральнікі стужкі вырашылі скарыстаць замест "Жыве Беларусь!", ужо паспеў зрабіцца нефармальным брэндам дзяржавы ў яе цяперашнім стане. Прынамсі, для людзей, якія досыць актыўна карыстаюцца інтэрнэтам.*

*Гэта натхніла творчых асоб на размову: а ці патрэбны Беларусі наогул нейкія нацыянальныя праекты?*



### «Рэжым робіць кальку з Саюза»

Кінарэжысёр **Юрый Хашчавацкі** лічыць: цяга да глабальных праектаў тлумачыцца тым, што "*лукашэнкаўскі рэжым робіць кальку з Савецкага Саюза, не ўлічваючы розніцы ў рэсурсах і маштабах*".

Драматург і рэжысёр **Андрэй Курэйчык** бачыць прычыну ў іншым: "*Рэсурсы і маштабы тут не галоўнае: асноўная прычына — у цэнтралізацыі дзяржавы; чым яна больш цэнтралізаваная, тым болей схільная да пампезных глабальных праектаў. Паўночная Карэя таксама невялікая і не багатая на рэсурсы. А вось у дэцэнтралізаванай Швейцарыі "нацыянальныя праекты" наўрад ці магчымы: там кожны кантон самастойны*".

Насамрэч, зрэшты, гэта была не спрэчка: рэжысёры хутчэй дапаўнялі адно аднаго — як збольшага і іншыя ўдзельнікі сустрэчы.

Усе сышліся на тым, што нацыянальныя праекты накшталт касмічнага спадарожніка "БелКА" нашай краіне не патрэбны.

"*Але чаму не лічыць нацыянальным праектам падтрымку развіцця культуры, беларускай мовы? Гэткія нацыянальныя праекты вельмі патрэбныя. Брытанцы ставяць фільмы, прысвечаныя гісторыі іх дзяржавы, жыццю знакавых для іх асоб, а ў Беларусі чамусьці абмяжоўваюцца пераважна Другой сусветнай вайной*", — заўважыў Курэйчык.

Усе пагадзіліся з тым, што гэта было б цалкам прыдатным і пажаданым — гэтаксама як і на тым, што за цяперашняй уладай нічога падобнага чакаць не выпадае. "*Кіроўнаму рэжыму патрэбны выканаўцы, а не думаючыя творчыя асобы*", — зазначыў Хашчавацкі.

### «Галоўнае — выхаванне свабоднай асобы»

Былы мастацкі кіраўнік і стваральнік тэатра "Вольная сцэна" **Валерый Мазынскі,** адзначыўшы, што "*ў Беларусі адбыўся рэзкі злом пакаленняў*", выказаўся, што ў якасці нацыянальнага праекта бачыць найперш работу з моладдзю, якой перадусім трэба не замінаць свабодна развівацца, і, урэшце, "*выхаванне свабоднай асобы*". Ізноў жа — хто б спрачаўся!

"Круглы стол" зладзіла на сваім офісе Аб'яднаная грамадзянская партыя, аднак прычынай таго, што дзеячы культуры вялікую ўвагу надавалі палітычнаму складніку, было не гэта. А той факт, які канстатавала публіцыст і былая палітзняволеная **Ірына Халіп**: "*Усе мы разумеем, што без змены палітычнай сістэмы нічога тут не будзе*".

### «Нешта не так», бо «Нехта не той»

А што гэты "Авель", якому больш пасавала б назва "Каін", які стаўся інфармацыйнай нагодай для сустрэчы? Думаецца, наўрад ці ёсць сэнс на ім засяроджвацца: чытачы, бадай, і без таго здагадваюцца, менавіта што маглі сказаць пра гэты фільмік удзельнікі "круглага стала". Яны і казалі — прытым нярэдка ў даволі моцных выразах. *"Агітка ўлады", "брудная хлусня", "панегірык спецслужбам за 2 мільёны долараў беларускіх падаткаплацельшчыкаў"* — гэта найбольш мяккае з таго, што гучала.

Калі хто не ведае — сцісла: фільм "у мастацкай форме" хлусіць пра падзеі на Плошчы 19 снежня 2010 года. Аўтары падкрэсліваюць, што ён не дакументальны, быццам бы ад гэтага хлусня перастае быць хлуснёю. У прыватнасці, замест "Жыве Беларусь!" і "Ганьба!" на адрас улад дэманстранты ў фільме выкрыкваюць лозунг *"Нешта не так!"*.

Юрый Хашчавацкі, узгадваючы гэты трапны слоган, патлумачыў: *"Сапраўды ж нешта не так — з прычыны, што нехта не той мае ўсю ўладу".*

### Што «цягне» на нацыянальны праект?

З пытаннем пра нацыянальныя праекты — ужо незалежна ад "Каіна" — мы звярнуліся і да іншых экспертаў.

**Вацлаў Арэшка, культуролаг і мастацтвазнаўца:**

*— Нацыянальныя праекты павінны быць творчымі і наватарскімі — гэта найперш. І чыста маё — падкрэсліваю — меркаванне наконт крытэрыяў. Гэта моўнасць — рускамоўны беларускі праект, на маю думку, нонсэнс. А ў ідэалагічным сэнсе гэта павінен быць незалежніцкі і празаходні падыход — хоць я хутчэй назваў бы гэта не ідэалагічным, а цывілізацыйным падыходам. Ва ўсім астатнім — вялікая свабода, без якой плёну не будзе.*

**Сямён Букчын, журналіст, літаратуразнаўца, спецыяліст па беларуска-польскіх сувязях:**

*— Мне падаецца, што ў сітуацыі, у якой мы існуем, усе "нацыянальныя праекты" могуць быць толькі шкоднымі. А калі яна зменіцца... увогуле павінна быць дзяржаўная падтрымка літаратуры і мастацтва, але я лічыў бы за лепшае пазбегнуць гучных словазлучэнняў кшталту "нацыянальныя праекты", паколькі і ў іншай улады можа быць спакуса скарыстаць гэта ў якасці падтрымкі сваіх структур.*

**Уладзімір Арлоў, гісторык і пісьменнік:**

*— Нацыянальным праектам мог бы стацца фільм па класіку беларускай літаратуры Уладзіміру Караткевічу "Каласы пад сярпом тваім". І іншыя творы, якія паказваюць беларускі народ як народ еўрапейскі, як частку еўрапейскай цывілізацыі. Якім ён насамрэч і з'яўляецца.*

**Святлана Курс, пісьменніца і журналістка:**

*— Нацыянальны праект — гэта, напрыклад, "Народны альбом". Ён ствараецца сіламі групы вольных, творчых і свабодных людзей і спажываецца такімі ж людзьмі. І нацыянальныя праекты могуць быць толькі такога кшталту, бо, калі за справу бярэцца любая дзяржава, замест нацыянальнага праекта атрымліваецца збольшага пафаснае г... Дзяржаўная падтрымка ў выглядзе грантаў не павінна вызначацца толькі чыноўнікамі — хіба камісіямі, якія складаюцца і з недзяржаўных, і з дзяржаўных экспертаў.*

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## «Новая зямля» з ілюстрацыямі Васіля Шаранговіча

27 лютага а 16-й гадзіне ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбудзецца прэзентацыя выдання паэмы Якуба Коласа "Новая зямля" з ілюстрацыямі народнага мастака Беларусі Васіля Пятровіча Шаранговіча, а таксама адкрыццё выстаўкі "Малюнкі родныя і з'явы..." з фондаў музея Якуба Коласа.

Энцыклапедыя сялянскага жыцця Якуба Коласа — паэма "Новая зямля" — можа пахваліцца колькасцю сваіх перавыданняў і перакладаў на іншыя мовы свету. Да 75-годдзя народнага мастака Беларусі ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" пабачыла свет новае выданне паэмы з ілюстрацыямі Васіля Пятровіча Шаранговіча. Выбраная ім тэхніка класічнай акварэлі не самая лёгкая ў выкананні, не дапускае папravак і патрабуе працы смелай і напрацаванай рукі. Але, са слоў мастака, *"Якуб Колас прымушае знайсці мастакоўскі ход: як паказаць спалучанасць чалавека і прыроды, як апець зямлю, а над ёй неба і зоркі, пра што так любіць развважаць паэт, і вялікую цягу чалавека да прасторы і ў той жа час да сокаў зямлі, якія даюць права чалавеку на існаванне".*

На прэзентацыю запрошаны вядомыя мастацтвазнаўцы, літаратары, беларускія пісьменнікі і паэты.

ТАЯМНІЧЫ ПРАЕКТ

# Беларускія вучоныя-гісторыкі на расійскай службе

Трымаю ў руках фаліянт пад назвай "Русский сборник: исследования по истории России. Том XV. Польское восстание 1863 г.". Кніга свежая, месца выдання — Масква, але ўкладзена яна ў Мінску прафесарам філіяла Расійскага дзяржаўнага сацыяльнага ўніверсітэта Кірылам Шаўчэнкам. Сярод аўтараў не толькі расіяне, але і шэраг гісторыкаў, выкладчыкаў дзяржаўных навучальных устаноў Рэспублікі Беларусь.




Пэўна, навуковец мае права надрукавацца дзе заўгодна. І ў гэтым зборніку маюцца моцныя артыкулы (як, скажам, дацэнта Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь А.Кісялёва пра рэформу паліцыі ў час паўстання). Аляксандр Аляксандравіч цытуе службовую запіску Мураўёва, які патрабаваў, каб на тэрыторыі сучаснай Беларусі **"все служебные должности по всем ведомствам, а также все места, имеющие прикосновение с народом, заместить русскими чиновниками, прочие же должности заменить русскими постепенно".** Што тычыцца чыноўнікаў-каталікоў, то іх служба была магчымай толькі пасля праверкі *"личного состава штатных чиновников польского происхождения",* пры гэтым чыноўнікі павінны былі засведчыць палітычную добранадзейнасць і адданасць ураду не на словах, а на справе. Вельмі актуальна, Аляксандр Аляксандравіч! Ці ж мы не маем такі падыход да кадраў сёння, ці ж не дыскрымінуюць у нас за ўдзел у палітычных акцыях, за "Карту паляка" і г.д.?

Але навукова шчыры артыкул Кісялёва ў гэтай кнізе, бадай, выключэнне. Тут што ні слова, то цагліна ў падмурак самадзяржаўя, апраўданне палітыкі царскай Расіі ў адносінах да беларусаў. Няма неабходнасці згадваць усе артыкулы, але на адным засяроджу ўвагу.

Алег Айрапетаў, кандыдат навук, дацэнт гістфака Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, захапляючыся дзейнасцю ката беларускага народа Міхаіла Мураўёва, згадаў верш Мікалая Някрасава, які той прачытаў у час уганаравання вешальніка ў Санкт-Пецярбургу ў 1865 годзе:

*Бокал заздравный поднимая,*
*Еще раз выпить нам пора*
*Здоровье миротворца края...*
*Так много ж лет ему... Ура!*
*Пускай клеймит тебя позором*
*Надменный Запад и враги;*
*Ты мощен Руси приговором,*
*Ее ты славу береги...*

Я не ведаю, ці ўключаны гэты верш у беларускія школьныя падручнікі. Але не выключаю, што калі пакуль не ўключаны, то гэта справа бліжэйшай будучыні. Нішто не перашкаджае чыноўнікам ад адукацыі вызначыць у Някрасава менавіта гэтыя радкі і трактаваць іх у пацвярджэнне "геніяльнасці" паэта. А нешта ж падобнае ёсць яшчэ ў Цютчава, Аксакава і г.д. Сам жа спадар Айрапетаў, падсумоўваючы, адзначае, што падаўленне паўстання было вельмі дабратворным для Расіі. І ні слова пра трагедыю беларускага народа!

Не адстае ад калегі па МДУ галоўны рэдактар часопіса "Родина" Юрый Барысёнак. Ён шчыра даводзіць, што публікацыю яму замовіў Расійскі гуманітарны навуковы фонд (праект №11-21-16001а/Bel3). Спасылаючыся на працу беларускага даследчыка Я.Янушкевіча аб тым, што Каліноўскі быў палякам і быў хрышчоны ў касцёле, ён прыводзіць словы гісторыка А.Ф.Смаленчука, што *"беларускасць Каліноўскага была толькі тактычным сродкам дзейнасці польскага паўстанца ў Беларусі"* (часопіс "Спадчына", 1998. №2. С.84-105) і бэсціць ужо не толькі Каліноўскага, але і Вацлава Ластоўскага.

Аляксандр Гронскі, дацэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі, разрадзіўся ў кнізе двума артыкуламі. У адным з іх ён ставіць пад сумненне працы акадэміка Карскага і высновы апошняга аб самастойнасці беларусаў. Гэты кандыдат навук (пэўна, абараняўся ў Мінску) кажа: *"Современная Белоруссия была бы неосуществимым проектом без подавления польского восстания 1863—1864 гг.",* — і заклікае ўшаноўваць памяць рускіх, якія загінулі ў час паўстання, у тым ліку рускіх афіцэраў, што скончылі жыццё... самагубствам. Гэты беларускі навуковец, як кажуць, на ўздыме: мала што збэсціў назву краіны, але ўзяўся разважаць на тэму *"Конструирование образа белорусского национального героя из участника польского восстания 1863—1864 гг. Викентия Константина Калиновского".* Пры гэтым ён забываецца пра галоўнае: нацыянальных герояў у той час у нас было шмат. І "канструіраваць", прыдумляць сваю адвагу беларусам няма патрэбы. Спадар Гронскі не ведае, мусіць, што Мураўёў мэтанакіравана знішчаў генафонд нацыі, а жорсткасць пакаранняў не мела ранейшых прыкладаў. На працягу расійскай прысутнасці карэннае насельніцтва Беларусі ўвесь час выступала супраць яе. Шматлікія выступленні грунтаваліся на нежаданні забыць сваю гісторыю, прыняць уціск, рэлігійнае зневажанне. Дарэчы, пра апошняе. Магістр царкоўнай гісторыі, дацэнт Мінскіх духоўных акадэміі і семінарыі дыякан Гардзей Шчаглоў красамоўна піша пра праваслаўных святароў, якія палі ахвярамі паўстанцаў. Такія нешматлікія ахвяры, на жаль, былі. Пэўна, і сам магістр пра гэта ведае, бо колькасць пакараных святароў не прыводзіць, дадае ў свой пералік іншых ахвяр і завяршае свой "научный труд" наўпрост "гуманізмам" Мураўёва. Якімі "гуманістамі" былі маскоўскія адміністратары ў адносінах да іншаверцаў — пратэстантаў, каталікоў, саразаконных (яўрэяў) і г.д., вядома. Пра гэта падрабязна апавядаецца ў кнізе "Маскоўская ўлада на Літве". Я раю Шчаглову прачытаць яе. Больш за тое, звяртаючыся да *"вялікай гуманнай місіі праваслаўя",* нагадаю яму толькі адно імя ўніяцкай манашкі Макрыны Мечыслаўскай, пра пакуты якой напісаў некалі ў сваёй кнізе "І векавечны толькі край" Алесь Карлюкевіч: *"Рускі імператар Мікалай І уступіў на трон у 1825 годзе... пачаўся афіцыйны курс на русіфікацыю і праваслаўны гвалт нярускіх народаў".* Далей Алесь Мікалаевіч піша пра скасаванне Мінскага базыльянскага кляштара, пакуты яго насельніц: *"Па загадзе епіскапа Сямашкі жанчын секлі розгамі. Экзекуцыі наладжваліся з запрашэннем публікі. Лілася кроў, літаральна кавалкі мяса віселі на ахвярах. Але ўніяткі не гублялі сваёй перакананасці ў веры. Некалькі сясцёр памерлі".* Дык у чым жа былі вінаватыя гэтыя ахвяры, магістр Шчаглоў? На які капыл іх збіралася перарабіць праваслаўе?

У кнізе больш за два дзясяткі аўтараў, і амаль у кожнага з іх ідэалагічная зададзенасць. Яна палягае ў тым, што Расія — беззаганная краіна, а беларусы толькі і рабілі, што шкодзілі ёй. Ні слова пра падзелы Рэчы Паспалітай, пра прычыны, што прывялі да паўстання. Чыста вялікадзяржаўная шавіністычная кніжонка. Можна было б і не звяртаць на яе ўвагі (зараз у Расіі такіх тысячы), калі б не тая акалічнасць, што рыхтавалася яна ў Мінску. Кожны з беларускіх навукоўцаў за аплёўванне айчыннай гісторыі атрымаў, відаць, грашовую надбаўку з казны (за кандыдацкае званне) і беспакарана будзе працягваць выкладаць свае погляды студэнцкай моладзі. А федэральная дзяржаўная бюджэтная ўстанова "Расійскі гуманітарны навуковы фонд" будзе падтрымліваць іх думкі і надалей фінансаваць скажэнне беларускай гісторыі.

Вар'яцтва. Шкада краіну...

**Віктар ХУРСІК.**

*Мінск.*

ПУБЛІКАЦЫІ

*У выдавецтве “Кнігазбор” убачылі свет апавяданні розных гадоў вядомага пісьменніка **Барыса ПЯТРОВІЧА.** На жаль, накладам усяго толькі 350 экземпляраў.*

*Каб пазнаёміць шырокую грамадскасць з мастацкім словам Б.Пятровіча, прапануем чытачам “Народнай Волі” апавяданне “Да каміна дажыць”, уключанае ў зборнік “Спакушэнне”.*



*Барыс ПЯТРОВІЧ*

# Да каміна дажыць

У кожнага чалавека ў любым узросце ёсць мара. Пэўная ці не пэўная, названая ці не названая, усвядомленая ці неўсвядомленая, таемная ці не таемная... Мары маюць асаблівасць з-бывацца і забывацца. Але і ў адным, і ў другім выпадку яны падмяняюцца іншымі. Чалавек не можа жыць без мараў. Так, але часам бывае ў чалавека адна мара на ўсё жыццё.

Я ведаў такога чалавека.

Калі вы, прачытаўшы назоў, падумалі, што ён быў вяскоўцам, які ў юначыя годы пераехаў у горад, каб вучыцца, і застаўся ў ім назаўсёды, а цяпер настальгуе па печы і грубцы ды марыць замяніць іх камінам на лецішчы — дык вы памыліліся. Наадварот, ён быў гараджанінам у пятым калене, якіх у стольным Мінску, разбухлым па вайне, не так і шмат. Вырас ён у хрушчоўцы амаль у цэнтры горада і карову — жывую! — убачыў, толькі калі на першым курсе філфака іх выправілі ў калгас на бульбу. Тады ўпершыню пабачыў ён і як расце ўласна бульба, дакладней як яе капаюць — здабываюць, і там жа, у гэтай вёсцы, знобкім асеннім вечарам убачыў і распаленую грубку. Ну, хай грубка і не камін, але яна яго заваражыла. Сваім утульным, сухім цяплом, хатняй ласкавасцю, зыркімі языкамі полымя, патухаючымі вугалькамі, на якія можна глядзець бясконца — як на імпрэсіяністкую карціну — і ўвесь час знаходзіць нешта новае, нязнанае, невядомае, нябачанае, незаўважанае і... невыказнае. Ён паспрабаваў намаляваць агонь у грубцы, але выйшла не падобна: і вугельчыкі былі зусім не жывымі, дакладней — мёртвымі і халоднымі. І не ратавала нават тое, што ён да шэрага попелу дадаваў і дадаваў чырвонага колеру... Ён падумаў, мусіць: таму мастакі і не любяць маляваць агонь, што дакладна перадаць гульню ягоных фарбаў амаль немагчыма. На тым супакоіўся ягоны мастакоўскі імпэт.

Але грубка — гэта ўсё ж не камін. Яе задача больш празаічная: не столькі радаваць, колькі саграваць. Таму да дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя і не было ў нас, вечных прагматыкаў, моды на каміны. І таму жывы камін ён упершыню ўбачыў, калі быў на практыцы ў Германіі пасля чацвёртага курса. Яго, як і яшчэ дзясятак студэнтаў, адправілі ў Берлін практыкавацца нямецкай мове. Жылі яны ў інтэрнаце, які знешне нічым не адрозніваўся ад мінскіх, дзе ён бываў у сваіх аднакурснікаў, — хіба што большай чысцінёй і дагледжанасцю ўнутры ды вальнейшымі норавамі жыхароў. У душавым пакоі, дзе было дзясятак кабінак, хлопцы і дзяўчаты мыліся разам, зусім не саромеючыся адно аднаго. Калі ён упершыню зайшоў сюды, не ведаючы мясцовых нораваў, яму здалося, што тут “жаночы” дзень, бо ўбачыў сярод голых целаў адных толькі жанчын. Аслупянеў на момант, але ягонае здзіўленне ніхто не заўважыў, а ён паспеў разгледзець сярод целаў і хлопцаў... Мыцца ён тады не пайшоў з фізіялагічных праблем — нашыя мужчыны не звыклыя да такога, і ёсць у іх месца, якое выдае іх хваляванне ад пачатку. Але... размова не пра тое.

Каміна ў інтэрнаце, зразумела, не было. Аднак на адзін з выхадных яго і яшчэ некалькіх беларускіх студэнтаў запрасіў да сябе дамоў універсітэцкі выкладчык — куратар. Не на вілу за горадам, а ў адзін з даўніх шматпавярховых дамоў амаль у цэнтры Берліна, якія цудам захавалі свае сцены падчас бамбёжак ды захопу саюзнікамі ў 1945 годзе і былі адрэстаўраваныя, адбудаваныя. Жыў выкладчык на апошнім паверсе, амаль у паддашку, і ў яго ў кватэры быў сапраўдны камін. Гэта асабліва здзівіла ўсіх беларусаў, а яго — найбольш. Ні цуды тэле- і відэа-аўдыётэхнікі, ні суперлядоўня і мікрахвалёўка, што тады, на пачатку дзевяностых, былі для яшчэ савецкіх людзей верхам цывілізаванасці, а... звычайны, мінулавяковы — так-так, дом быў пабудаваны ў XIX, а то і ў XVIII стагоддзі — камін.

Відаць было, што і гаспадар ім таксама даражыць. Як толькі прыйшлі і распрануліся — а была вясна і яшчэ халаднавата на берлінскай вуліцы, хоць снегу ўжо і не было, у адрозненне ад Мінска, гаспадар адразу адчыніў дзверцы ў каміне і расклаў цяпельца. І ажыў пакой, у надвячоркавай паўцемры зайгралі воблескі полымя на сценах, гаспадар уключыў начнічок у адным з кутоў даволі вялікага пакоя, які быў і кухняй і гасцёўняй разам, і стала яшчэ цямней і... утульней. Менавіта ўтульней і так хараша ды цёпла, так добра і весела, што смех і жарты адразу пасыпаліся з вуснаў. І шчаслівы гаспадар быў самым вясёлым і нястрымным.

Ён жа падсеў да бойкага агеньчыка, працягнуў да яго рукі — і шчасце расплылося па целе ад кончыкаў пальцаў да самага апошняга закуточка. Аж да дрыжыкаў захаплення. І такая любоў расцяклася па ім, што ён гатовы быў абдымаць і цалаваць усіх дзяўчат незалежна ад таго, падабаліся яны яму ці не... Але ён стрымаў сябе, падцягнуў пуфік, што стаяў побач, сеў — і ніщто і ніхто на працягу паўвечара, пакуль гаспадар гатаваў глінтвейн і нешта з ежыва, не адцягнула яго ад каміна. Ён абслугоўваў яго, падкладваў дровы — ласкава і кранальна — і радаваўся разам з агнём, калі той абуджаўся, прымаючы новы ласунак — адмысловае бярозавае бярвенца ці дубовую скепку...

Дамоў ён вярнуўся з адною мэтаю — займець сабе такі камін. Толькі не трэба адразу згадваць прыклады з класікі — расійскай ці сусветнай: Чэхава з агрэстам, альбо Акутагаву з бататавай кашай, ці нават Гогаля з ягоным знакамітым шынелкам (што праўда, усе мы выйшлі з гогалеўскага шыняля) і яшчэ дзясятак іншых класікаў, раскіданых па свеце, якія ўжо скарысталі “ў сваёй творчасці” нечым падобны сюжэт — мару маленькага чалавека, пры гэтым не важна, што прымушала яго хваляваца, чаго ён хацеў і дзеля чаго жыў, каб, атрымаўшы нарэшце сваё, супакоіцца... Не трэба. Як я ўжо не раз казаў — жыццё любіць паўтарацца аж да падрабязнасцяў на кожным новым сваім вітку, у кожнай новай краіне і кожным новым лёсе... І таму гэта не плагіят. А калі і плагіят, то самога жыцця, а не Гогаля з Чэхавым...

Дык вось — камін стаў ягонай марай. Лецішча ў ягоных бацькоў не было — жыла толькі памяць пра дзедаву “саўмінаўскую дачу”, якую ў 1937-м разам з дзедам забрала дзяржава. І ў бабулі, якая выжыла, нягледзячы на тое, што стала ЧСІРам (ЧСЗР — для тых, каму незразумела), выпрацаваўся жорсткі імунітэт супраць лецішча, і яна ягоным бацькам не дазваляла ні будаваць яго, ні набываць... Не было жадання займець лецішча за горадам і ў яго — па генах перадалося ці што? А зрабіць камін у звычайнай панэльнай дзевяціпавярхоўцы, у якой ён жыў — было абсалютна нерэальна. І тым не менш, ён пачаў нешта рабіць, каб ажыццявіць мару.

Ён памяняў сваю кватэру на такую ж, у гэткім жа доме, але на ўскраіне горада, ля самага лесу, і на апошнім паверсе. Зрабіў у адным з пакояў камін, а трубу вывеў праз гаўбец наверх. Кожны вечар з нясцерпнай радасцю ён спяшаўся дамоў, каб раскласці цяпельца і падсмажыць сабе кавалачак хлеба да кавы. Але пакарыстацца сваім шчасцем змог нядоўга. Суседзі ўбачылі лёгкі дымок над домам і выклікалі пажарных... І пайшло-паехала: камісіі, жэкі, скаргі, забароны, суды... Карацей, з камінам давялося развітацца, яшчэ і вялікі штраф заплаціўшы.

І засталося яму адно: набыць дамок у вёсцы. З печчу, якую ў нас часам называюць рускай, хоць ва ўсім свеце яна галандская, ды грубкай. І вярнуцца такім чынам да каранёў. Не кажу “сваіх”. Бо не зусім дакладна гэта ў нашым выпадку. Хоць, пэўна ж, продкі нашага героя ў пакаленні дзясятым, а можа, і бліжэйшым, дакладна карысталіся печчу і грубкай. Але больш правільна, мабыць, усё ж — камінам. Бо адкуль інакш было ў яго таму жаданню, той мары ўзяцца, як не з генаў?.. Аднак радавод па нашым часе — справа цёмная... І няпэўная. Бо, каб выжыць пры камуністах, трэба было ўсім запісваць сабе рабоча-сялянскае паходжанне і ніколі нідзе ніякім чынам не згадваць пра дзядулю-купца ці бацьку-паліцмайстра...

Ягоны прадзед быў, паводле сямейнай легенды, беспрытульнікам і з дзетдомаўцаў выбіўся ў прафесары ўніверсітэта, дзед стаў вядомым урачом, а бацька — выкладчыкам у прадзедавым універсітэце і таксама прафесарам. Яго ж паланілі яшчэ ў дзяцінстве музы, і ён стаў пісьменнікам. Пра тое, што і ягоныя прапрадзеды былі не з простых смяротных, ён даведаўся ад маці, толькі стаўшы студэнтам. Але гэта, па вялікім рахунку, не важна для нашай гісторыі. Нас цікавіць толькі ягоная мара. Ён доўга ездзіў з сябрам (прызнаюся, са мной, у яго не было машыны і ён папрасіў мяне) па мінскім наваколлі, аднак усе вёскі, у якіх прадаваліся хаты, яму не падабаліся. Яму хацелася, каб побач быў лес і возера ці хоць бы рачулка, а такія надзелы купляліся ў першую чаргу, і, калі яны з сябрам прыязджалі па аб’яве, выяўлялася, што хата ўжо прададзеная...

Але — хто вельмі хоча, той знойдзе, што жадае. У рэшце рэшт ім пашанцавала стаць першымі пакупнікамі хаты ў невялікай вёсцы, з аднаго боку якой было возера, а з другога пачынаўся лес. Проста ідэальна, падумаў ён, і не стаў збіваць кошт, а яшчэ трохі і пераплаціў, каб хутчэй аформіць дамок на сябе. Хата была старая — пабудаваная да вайны, але захавалася някепска. Былі ў ёй і печ, і грубка. І ён быў шчаслівы... пару тыдняў, пакуль да яго не прыйшоў сусед і не сказаў: “Дай колькі рублёў на пляшку — вып’ю за знаёмства”. Ён даў. Сусед вярнуўся з пляшкай праз хвілін дваццаць. “Накрывай стол, — сказаў, — будзем знаёміцца”. “Я не п’ю”. “Нічога, я і за цябе вып’ю”.

Сусед сядзеў да позняга вечара і абрыд сваімі размовамі. Спачатку яму падалося гэта займальным: здабудзецца мо які сюжэт для апавяда, але сусед быў настолькі нецікавым і аднастайным, бубнеў сабе пад нос адно матамі і ніякіх цікавых гісторый не расказваў, таму, калі госць нарэшце пайшоў, ён адчуў палёгку. Да раніцы. Бо той, ледзь развіднела, зноў прыпоўз. На трэці дзень ён паспрабаваў абурыцца і грошай суседу “на знаёмства” не даць. “З’едзеш адсюль у горад — спалю... — сказаў сусед і ўдакладніў: “Хату спалю”. Прагучала гэта будзённа, а таму пераканаўча і пераканальна. Але ён суседу грошай не даў, а стаў падумваць пра тое, што і тут яму спакою не будзе. Бо няма чалавеку, які шукае цішыні на гэтай зямлі, больш страшных ворагаў, чым ягоныя суседзі.

Падумаў ён так і зноў пачаў пытаць сабе дамок, але ўжо каб без аніякіх суседзяў.

І знайшоў. Былую леснічоўку, кіламетраў за пяць ад бліжэйшай вёскі яму саступілі амаль задарма.

Леснічоўка стаяла на паляне, на беразе безыменнай рачулкі — амаль ручаіны, бурлівай толькі ўвесну і спакойнай увесь астатні час, побач быў калодзеж, было падведзена электрычнае святло... і... словам, мелася ўсё для жыцця, у тым ліку — печ і грубка.

Нарэшце ён адчуў сябе шчаслівым. Паўгода раскашаваў у поўнай адзіноце. А потым, паступова, у яго з’явіліся сябры — лось Яшка, заяц Цішка, вожык Рыгор...

А яшчэ — дуб Зміцер, тры бярозы — Вера, Надзея, Любоў — і рабіна Рая, да якой ён прыходзіў, калі асабліва цяжка было, каб параіцца, і заўсёды меў тут адказ на свой клопат ці чарговы непраходны ступар у развіцці сюжэта новага апавяда...

Цэлымі днямі ён сядзеў і пісаў — пісаў... асадкай на паперы, не прызнаючы ніякіх друкавальных машынак і тым больш камп’ютараў. Пісаў аднпачасова некалькі апавядаў, і таму на стале ягоным заўсёды быў прыемны яму бардак з пачаткаў, сярэдзін і проста накідаў да апавядаў. Творы свае ён нідзе не друкаваў, не дасылаў у нейкія часопісы ці газеты, а толькі калі было сонечнае, светлае надвор’е, выходзіў на ганак, сядаў і пачынаў чытаць услых — лесу, сонцу, хмаркам, што спыняліся над леснічоўкай... І сваім сябрам — дрэвам ды жывёлам: Яшку, Цішку і вожыку Рыгору, Зміцеру ды тром бярозкам... І ў нікога на ўсім белым свеце не было ніколі больш уважлівых і ўдзячных слухачоў.

На жаль, колькі часу таму я страціў сувязь з гэтым сваім знаёмцам і, калі паспрабаваў даехаць да ягонай леснічоўкі, збіўся з дарогі, заблукаў у лесе і ледзь выбіўся назад. І не дзіва — дарога, што вяла да ягонай хаты, не трывожаная нікім шмат гадоў, зусім зарасла гонкімі дрэўцамі і згубілася між кустоўя... Але я веру, што ўсё ў яго добра і жыве ён у сваёй хаціне (з печчу ды грубкай) у згодзе ды шчасці.

І апошняе — я яму зайздрошчу.

## ДАСЬЕ «НАРОДНАЙ ВОЛІ»

## Барыс Пятровіч (Сачанка)

Нарадзіўся 17 ліпеня 1959 года ў вёсцы Вялікі Бор Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Паводле адукацыі журналіст. Працаваў у газетах “Гомельская праўда”, “Звязда”, “Літаратура і мастацтва”, часопісе “Полымя”. У 2002 годзе заснаваў і стаў галоўным рэдактарам літаратурнага часопіса “Дзеяслоў”. Часопіс паслядоўна змяшчае творы беларускай літаратуры, адлюстроўваючы сучасны літаратурны працэс. У снежні 2011 года абраны старшынёй Рады ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў”.

Жанаты, мае двух сыноў.

# Владимир Спиваков награжден орденом Скорины

*Художественный руководитель и главный дирижер Государственного камерного оркестра “Виртуозы Москвы”, президент Московского международного дома музыки Владимир Спиваков награжден орденом Франциска Скорины.*

Соответствующий указ Александр Лукашенко подписал 24 февраля.

Как сообщили в пресс-службе президента, награда присуждена Спивакову за значительный личный вклад в развитие и популяризацию классического искусства, большие заслуги в укреплении культурных связей между Россией и Беларусью.

ФУТБОЛ

# Начинаем с Люксембурга

*Первый матч отборочного турнира чемпионата Европы по футболу 2016 года белорусская сборная проведет 8 сентября нынешнего года на выезде против Люксембурга, сообщает пресс-служба федерации футбола.*

Полный календарь **группы С** выглядит так:

**8 сентября 2014 года.** Люксембург—**Беларусь,** Испания—Македония, Украина—Словакия.

**9 октября. Беларусь**—Украина, Македония—Люксембург, Словакия—Испания.

**12 октября.** Украина—Македония, **Беларусь**—Словакия, Люксембург—Испания.

**15 ноября.** Люксембург—Украина, Македония—Словакия, Испания—**Беларусь.**

**27 марта 2015 года.** Македония—**Беларусь,** Словакия—Люксембург, Испания—Украина.

**14 июня.** Украина—Люксембург, **Беларусь**—Испания, Словакия—Македония.

**5 сентября.** Люксембург—Македония, Украина—**Беларусь,** Испания—Словакия.

**8 сентября. Беларусь**—Люксембург, Македония—Испания, Словакия—Украина.

**9 октября.** Македония—Украина, Словакия—**Беларусь,** Испания—Люксембург.

**12 октября. Беларусь**—Македония, Люксембург—Словакия, Украина—Испания.




# Ма-лай-чы-на! На 50-кіламетровую трасу — у 40 гадоў

Можа, не ўсе ведаюць, што ў апошні дзень алімпійскіх спаборніцтваў у Сочы беларусаў парадаваў (“на пасашок”) лыжнік **Сяргей Далідовіч**, які ў гонцы на 50 кіламетраў заняў ганаровае 5-е месца. Пагадзімся, што для 40-гадовага спартсмена даволі нядрэнны вынік. Сяргей пераадолеў дыстанцыю за 1 гадзіну 47 хвілін 9,5 секунды. Пасля 38 км Далідовіч ішоў 32-м і за астатні адрэзак абагнаў 27 сапернікаў...

СПЕЦИАЛЬНЫЙ РЕПОРТАЖ

# ...Но и самородки нужно шлифовать

*Спорт высоких достижений и звон олимпийского “золота” — это, конечно, прекрасно. Но наш корреспондент, пока страна радостно подбрасывала в воздух чепчики по поводу трехкратной победы на Олимпиаде Дарьи Домрачевой, решил посетить в Витебской области Сенненскую ДЮСШ, где и начинают делать первые шаги будущие биатлонисты...*

— Иваныч, радость-то какая! — при моем появлении руководство школы проявляет неописуемый восторг.

Надо сказать, что Иваныч — это не я, а директор детско-юношеской спортивной школы **Анатолий ГОРНАК**. И повод для радости весомый — аккурат к моему приезду стало известно, что Дарья Домрачева в рамках проекта “Олимпийский выбор” приняла решение передать 100 миллионов рублей Сенненской ДЮСШ. Как говорил один киногерой: это я удачно зашел!

**— Как распорядитесь?** — интересуюсь с порога.

— Были бы деньги, а применение найдем, — по-хозяйски парирует Анатолий Иванович. — Хотя не ожидали. Даже шутили: “Пускай бы нам фристайлист Антон Кушнир хоть что-нибудь отправил”.

— В этом году у нашей школы юбилей — 60 лет! — с гордостью рассказывает директор. — Сейчас работают отделения легкой атлетики, греко-римской борьбы, настольного тенниса и биатлона. Но последний вид спорта — это, конечно, приоритет. Кстати, трехкратный чемпион мира по биатлону Петр Ивашко — наш кадр. Вот недавно Ира Кривко, тоже прошедшая эту ДЮСШ, взяла “бронзу” в индивидуальной гонке и “золото” в эстафете на чемпионате Европы. Кстати, Ира ведь бегала с Домрачевой на этапах Кубка мира, может, Даша от нашей воспитанницы и узнала о существовании школы.



Тренеры ДЮСШ ищут будущих спортсменов не только в райцентре, но и по деревням. Дают по полставки сельским учителям физкультуры, те занимаются с ребятами. Сейчас в биатлонной секции 93 человека по всему району. В биатлон приходят примерно в 9 лет, затем до 13 лет их учат в ДЮСШ, а дальше наиболее перспективные попадают в училища олимпийского резерва. Но есть и проблемы.

— Понимаете, даже для детского спорта нужны высокофтористые парафины, ускорители для смазки, — отмечает Анатолий Иванович. — Прогресс ведь не стоит на месте. Вот приезжают на соревнования дети из Чаусов, Плещениц, Логойска — там прекрасная экипировка. На более-менее простых лыжах за ними трудно угнаться.

— А проблема набора?! — вступает в разговор заместитель директора ДЮСШ **Александр ДАУШКАС**. — Во-первых, у нас в районе произошло сокращение числа школ и учащихся. Раньше из двух городских школ около 2 тысяч детей занимались у нас, а теперь еле-еле тысячу набираем. Учителя физкультуры говорят, что практически у каждого во время медосмотра обнаруживаются какие-то отклонения. Меньше стало здоровых детей. Проблемы со зрением, сердцем, сколиоз... Может быть, это Чернобыль дает о себе знать, возможно, просто нация слабеет. Хотя отмечу, что в деревнях дети здоровее и сильнее. Вот и приходится больше “шерстить” село.

Биатлон — не хоккей и не теннис, здесь на ребенка не нужно тратить сумасшедшие деньги. Спортивный костюм найдется в каждой семье, а остальным школа обеспечит. Но матчасть — фактор не из последних.

— В прошлом году купили 8 пар лыж “Фишер”, ботинки, федерация подарила три винтовки, — добавляет директор школы. — 54 тысячи патронов получили. Но 100 миллионов рублей, безусловно, не помешают. Например, одна пара хороших лыж стоит около 370 евро. Ботинки — 1 миллион 800 тысяч. Ижевские винтовки — по 12—15 миллионов. У ветрозащитных костюмов срок годности — год-два, а в школе 300 человек. И цена одного костюма — около 200 тысяч. Вот и считайте сами... Таких денег у нас нет, так что костюмы выдаем самым лучшим.

Мои собеседники с удовольствием рассказывают, что скоро для биатлонистов в Сенно построят новую базу. С тиром, оружейной, тренерскими комнатами... Точнее, базу сделают из кондитерского цеха, который уже выкупили за 50 миллионов рублей. Но проект реконструкции тянет примерно на 4,5 миллиарда рублей. И управление спорта Витебского облисполкома эти деньги обещает.

А пока что база — это строительные вагончики, где будущие чемпионы переодеваются, греются, хранят инвентарь. Правда, нет воды — ни горячей, ни холодной, так что помыться после тренировок негде.

— Стрельбище мы тоже своими силами делали, правда, организации помогали, — рассказывает тренер **Валерий ЛЕКТОРОВ** *(на фото)*, который в районном центре воспитал будущего трехкратного чемпиона мира Петра Ивашко, а также чемпионку Европы Иру Кривко.




— Бугор срезали, облагородили болотистую местность...

**— Валерий Михайлович, как вам удается отыскивать таланты?**

— Если коротко, то можно сказать так: под лежачий камень вода не течет. Плюс к этому у меня есть свои перспективные планы, по которым работаю, своя методика.

**— Даша Домрачева тоже самородок?**

— Конечно. Но и самородки нужно шлифовать. Любой талант без кропотливой работы над собой так и останется талантом. Кроме того, на Олимпиаде отлично сработала команда Домрачевой — тренеры, сервисмены. Подвели ее к Играм на пике формы. Да и от самой спортсменки многое зависит. Надо любить свое дело. Я же по детям вижу, кто через пару месяцев бросит биатлон, а кто в него душу вкладывает. Эти в любую погоду катаются — их отсюда надо выгонять.

**— Вы воспитали чемпиона мира Петра Ивашко, раньше в сборной Беларуси были такие имена, как Вадим Сашурин, Олег Рыженков... Почему белорусский мужской биатлон сейчас в таком “угнетенном” состоянии?**

— Я сам этому удивляюсь. Где-то на юниорском уровне провалились, когда происходила смена поколений. Нет плавного перехода. А может быть, тренеры никого и не нашли. Вроде бы человек показывает результаты на чемпионате Беларуси, а дальше — как отрезало. Да и психология у многих спортсменов меняется. Вот, бывает, человек занимается лет пять, а затем приходит и говорит: “Больше не хочу”. Появились друзья, какие-то другие интересы... Сейчас же много всяких соблазнов. И зачем ему этот биатлон? Здесь же пахать надо. Хотя в ДЮСШ, когда базу построят, вообще красота будет!

Сегодня средняя зарплата у детских тренеров в Сенненской ДЮСШ — около 5 миллионов рублей. Валерий Михайлович мне еще долго рассказывает о своих воспитанниках, биатлоне, перспективах... Видно, как человек любит свое дело и переживает за него.

— Понимаете, высшие достижения — это хорошо, — добавляет на прощание он. — Но главное — это детско-юношеский спорт. “Проспим” время — прощайте, будущие Домрачевы! Чтобы было будущее, о нем надо думать сейчас...

**Алесь СИВЫЙ.**
**Фото автора.**
*Сенно—Минск.*



# Медалёвы залік

*Медалі на Алімпіядзе заваявалі прадстаўнікі 26 краін.*

| Краіна | Золата | Серабро | Бронза | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| 1. Расія | 13 | 11 | 9 | 33 |
| 2. Нарвегія | 11 | 5 | 10 | 26 |
| 3. Канада | 10 | 10 | 5 | 25 |
| 4. ЗША | 9 | 7 | 12 | 28 |
| 5. Галандыя | 8 | 7 | 9 | 24 |
| 6. Германія | 8 | 6 | 5 | 19 |
| 7. Швейцарыя | 6 | 3 | 2 | 11 |
| **8. БЕЛАРУСЬ** | **5** | **0** | **1** | **6** |
| 9. Аўстрыя | 4 | 8 | 5 | 17 |
| 10. Францыя | 4 | 4 | 7 | 15 |
| 11. Польшча | 4 | 1 | 1 | 6 |
| 12. Кітай | 3 | 4 | 2 | 9 |
| 13. Паўднёвая Карэя | 3 | 3 | 2 | 8 |
| 14. Швецыя | 2 | 7 | 6 | 15 |
| 15. Чэхія | 2 | 4 | 2 | 8 |
| 16. Славенія | 2 | 2 | 4 | 8 |
| 17. Японія | 1 | 4 | 3 | 8 |
| 18. Фінляндыя | 1 | 3 | 1 | 5 |
| 19. Вялікабрытанія | 1 | 1 | 2 | 4 |
| 20. Украіна | 1 | 0 | 1 | 2 |
| 21. Славакія | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 22. Італія | 0 | 2 | 6 | 8 |
| 23. Латвія | 0 | 2 | 2 | 4 |
| 24. Аўстралія | 0 | 2 | 1 | 3 |
| 25. Харватыя | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 26. Казахстан | 0 | 0 | 1 | 1 |

**Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906, (029) 7753871**
**nvonlineinfo@gmail.com**
**http://www.nv-online.info**

ISSN 2071-9647
9 772071 964000 14015

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 24.02.2014 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 27020 экз. Заказ №599.**